# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №45 (154), 9 ЛІСТАПАДА 1994 ГОДА. КОШТ 50 РУБЛЁЎ



## ЁН ХОЧА ВЕДАЦЬ ПРАЎДУ

**Нас забівалі... Забівалі на неаб'яўленай вайне ўлады супраць народу, дзяржава супраць грамадства... У спісе ахвяр, здаецца, ніколі не будзе пастаўлена кропка. Раскаты стрэлаў і галасы без віны забітых працягваюць даносіцца праз дзесяцігоддзі...**

**... Ён пайшоў з сям'і ў трыццаць сёмым. Пайшоў пад прымусам і не вярнуўся. Як і многія тысячы, нават мільёны. Некаторыя нагадаюць пра сябе ў пахаронках і... нарэшце, сведчаннем аб рэабілітацыі, — слабое суцяшэнне для родных і блізкіх.**

**... Яго адарвалі ад жонкі і чатырох малых дзетак. І... і расстралялі ў пяцідзесяці метрах ад старой мінскай кватэры ў трыццаць восьмым. Татальная выпадковасць...**

**Гэта яго, Данілы Рыгоравіча Папекі, пажоўклую з цягам часу фотакартку, загорнутую ў пасведчанне аб смерці, прынёс з сабой да курапацкага крыжа ўжо пажылы сын Уладзімір Данілавіч. І хто ведае, ці не адчуваў гэты амаль сямідзесяцігадовага ўзросту чалавек, ідучы сюды сярод людскога натоўпу, побач з сабой поступ бацькі.**

**Гэта і ёсць вяртанне... Сустрэча праз дзесяцігоддзі.**




**Літаральна за дзень да Дзядоў Уладзімір Данілавіч атрымаў з архіваў пашпарт свайго бацькі, — зноў татальная выпадковасць. Яшчэ колькі месяцаў таму — жудасны дакумент, які сціскаюць гэтыя ўжо немаладыя маршчыністыя рукі.**

**Гэта ўсё, што ён ведае: бацька Даніла Рыгоравіч Папека — расстраляны ў гады рэпрэсій. А яго, сына, не пускаюць да архіваў КДБ, дзверы службоўцаў перад ім зачынены толькі таму, што хоча ведаць усю праўду. І вельмі баіцца не паспець...**

**Міхась РАВУЦКІ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

СЯРЭДЗІНА ТЫДНЯ

# АД ДЗЯДОЎ ДА КУПАЛЛЯ

Кожны гукае сваю вясну, у кожнага сваё Купалле, свае Каляды, свае Дзяды. Па-рознаму святкуюць адлучаны ад прыроды гараджанін і вясковец, усё жыццё якога падпарадкавана прыроднаму рытму; малады і сталы чалавек; па-рознаму — у родных мясцінах, дзе ўсе знаёмае і блізкае, і на чужыне.

Мабыць, я яшчэ доўга буду бачыць Дзяды праз прызму кастрычніка 1988 года. Тады свята, якое павінна спрыяць міру і згодзе, улады ператварылі ў рэпетыцыю грамадзянскай вайны. Баючыся Дзядоў як праявы свабоднага духу і незалежніцкіх настрояў, БССРаўскае кіраўніцтва выставіла супраць тых, хто прыйшоў з кветкамі да магіл вядомых людзей Беларусі (могілкі "Маскоўскія" па сутнасці з'яўляюцца нацыянальным пантэонам), тысячы міліцыянтаў і жаўнераў унутраных войскаў, узброеных дубінкамі, "чаромхай" і, можна не сумнявацца, агнястрэльнай зброяй. Дапаўнялі гэтую карціну начальніцкай дурасці вадамёты і машыны з закратаванымі акенцамі. Дзяды 1988 года сталіся рэвалюцыяй у свядомасці нацыі, а само свята, па сутнасці сямейнае, інтымнае, набыло характар агульнанацыянальны. І выразна антыбальшавіцкі. У каторы ўжо раз праявілася ўласцівая беларускаму грамадству асаблівасць: пры адноснай слабасці дэмакратычных, незалежніцкіх сіл у нашай краіне, здзейсніцца сацыяльнаму прагрэсу дапамагаюць сваёй дурасцю, цынізмам і нязданасцю тыя, хто хоча гэтаму прагрэсу супрацьстаяць. Ніякі антыкамуніст не змог бы так дыскрэдытаваць камуністычную ідэю, як гэта робяць самі камуністы. У палітыцы вельмі часта дэманстрацыя, а тым больш ужыванне сілы — гэта праява сіндрому слабасці.

Мінскія Дзяды, Тбіліская і Віленская трагедыі, авантура ГКЧП былі сведчаннем агоніі бальшавіцкай дзяржавы, той, што напрыканцы 1991 года паспяхова сканала ў Віскулях.

Хоць Дзяды ўжо некалькі год маюць статус дзяржаўнага свята, у разуменні ўладаў яны застаюцца БНФаўскай імпрэзай. Адсюль і насцярожанасць і прыхаваная нянавісць (такое ж стаўленне, дарэчы, і да Дня Незалежнасці). Адкрыта выступіць нельга (свята дзяржаўнае), а праігнараваць, скінуць працу на нефармалаў — можна. Так сёлета і было. Урадавыя чыноўнікі, што ўзнікалі на тэлеэкране з нагоды Дзядоў, глядзеліся не як прадстаўнікі кіраўніцтва краіны, а як прыватныя асобы. Ні прэзідэнт, ні прэм'ер-міністр не палічылі патрэбным звярнуцца ў гэты дзень да нацыі з прывітальным словам. У час мітынгу каля будынка МУС-КДБ да людзей не выйшлі ні міністр, ні старшыня камітэта, каб пакаяцца перад прысутнымі за грахі сваіх папярэднікаў. А якое ж абнаўленне без пакаяння? На багаслужбе ў Курапатах прысутнічалі прадстаўнікі дыпламатычных прадстаўніцтваў Злучаных Штатаў Амерыкі і Рэспублікі Польшча, але не было нікога, хто прадстаўляў бы кіраўніцтва нашай краіны.

Напярэдадні Дзядоў невядомыя падонкі зноў (у які ўжо раз!) разрылі Курапацкія магілы. Характар і маштабы гэтых, так бы мовіць, земляных работ даюць падставы меркаваць, што дзейнічалі не адзінкі, а вялікая і добра арганізаваная група. Гэтая акалічнасць ды яшчэ бяздзеянне ўладаў выклікаюць падазронасць, што ўсё робіцца з ведама, а мо, нават, і па загаду тых жа самых уладаў. У нас бальшавікі па-ранейшаму пры ўладзе, а бальшавікі да пакаяння не здольныя. Ім прасцей і больш звыкла знішчаць сведкаў і сведчанні ўласных злачынстваў (Курапаты). Такая ўжо натура...

На маю думку, наша сённяшняе адраджэнне пачалося з адраджэння абраду Купалля. Сёння тыя, хто калісь запальваў Купальскія вогнішчы і пускаў вянкі па рацэ — сталыя людзі. Яны ў тым узросце, калі чалавеку час ад часу трэба задумвацца аб вечным, бо на іхніх плячах ляжыць адказнасць за будучыню. Вось і ідуць яны на паклон і за парадай да Дзядоў, а без гэтага не дагукаемся Вясны, не будзе на нашай зямлі Купалля...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# ВЕЧАРЫНА ТРОХ МУЗАЎ

28 кастрычніка ў Доме літаратара адбылася творчая вечарына паэткі Галіны Булыка, прымеркаваная да выхаду ў свет яе новага зборніка "Турмалін". Да музы паэзіі ў гэты вечар завіталі ў госці, апрача шматлікіх аматараў прыгожага слова, "даверанныя асобы" дзвюх іншых музаў-апякунак выяўленчага мастацтва і музыкі. Салістка Белдзяржфілармоніі Ірына Шуміліна выконвала на фартэпіяна лірычныя творы Бетховена, Шуберта і Шумана, а мастак Рыгор Сітніца выставіў тры графічныя працы з агульнай назвай "Храм" (паводле ягонага ўласнага азначэння, — "псіхалагічны партрэт жывой святыні"). У трапяткой атмасферы запаленых свечак гучалі Галіны вершы: студэнты Універсітэта культуры прачыталі напамяць ледзь не ўвесь зборнік, ствараючы магічнае "люстэрка часу", на адзін вечар ажыла душа паэткі, якой яна была тры гады таму, калі ўпершыню апранала гэтыя вершы ў паперу.



Галіне Булыка ўжо прыналежыць заўважнае месца ў нашай літаратуры. Ці выпадкова, што менавіта з яе пачаў агляд ключавых постацяў сучаснай беларускай паэзіі абноўлены часопіс "Крыніца"? У сваім слове да гасцей вечарыны паэт Леанід Дранько-Майсюк адзначыў, што Галіна — першая наша паэтка, якая здолела наблізіць да чытача навуку: у "Турмаліне" многія вершы распавядаюць пра ўласцівасці розных металаў і мінералаў. Яны ўзбагачаюць чытача не толькі эмоцыямі, але і новымі ведамі, абуджаюць жаданне самому ўзяцца за пяро.

Скончылася вечарына імправізаванай прэс-канферэнцыяй, на якой журналістка Галіна Булыка (чытачы нашай газеты, безумоўна, памятаюць яе дасціпныя інтэрв'ю і рэпартажы) упершыню не пыталася сама, а адказвала на пытанні. І хаця, паводле яе, жыццё і мастацтва, жаноцкасць і паэзія — рэчы шмат у чым супрацьлеглыя, сама Галіна, запярэчым ёй, — адзін з лепшых прыкладаў іхняга парадаксальнага паяднання.

**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

**P.S.** Гэтымі ж днямі на паліцах кнігарань з'явіўся зборнік вершаў ("Адчужэнне") яшчэ аднаго з былых супрацоўнікаў "Культуры" — Андрэя Гуцава. Віншуем абодвух паэтаў і жадаем новых поспехаў!

*На здымку:* Галіну Булыка віншуе Леанід Дранько-Майсюк.

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# ХЛЕБАЗАВОД — "ФАБРЫКА КУЛЬТУРЫ"

У межах Дзён культуры Бона ў Мінску ў памяшканні Дзяржаўнага маладзёжнага тэатра адбылася фотавыстава, прысвечаная дзейнасці цэнтра "Бротфабрык".

Культурны цэнтр "Бротфабрык" (былы хлебазавод) існуе ў Боне з 1986 года і з'яўляецца адным з вузлавых соцыякультурных цэнтраў горада. На ягонай эксперыментальнай сцэнічнай пляцоўцы штогод ладзіцца каля 15 прэм'ер новых авангардных спектакляў некалькіх тэатральных труп, што прыналежаць да плыні "вольная сцэна". Там жа праходзяць гастролі калектываў сучаснай харэаграфіі, выступаюць музычныя і драматычныя калектывы, аб'яднаныя мэтамі "альтэрнатыўнай культуры". Цэнтр мае багатую кінематэку, у тым ліку шмат фільмаў для самых маленькіх гледачоў. Але найлепшым складнікам дзейнасці цэнтра сталіся адукацыйныя курсы (іх каля 70), студыі танца, выяўленчага мастацтва, навучэння ігры на музычных інструментах і г.д. "Бротфабрык" штогод ладзіць каля 280 розных імпрэзаў, якія збіраюць да 100 тысяч гледачоў.

Як мы ведаем, у беларускіх гарадах і мястэчках шмат нерэнтабельных прадпрыемстваў, і не ўсе яны здолеюць перажыць "канверсію" эканомікі ад планавай да рынкавай. Было б цудоўна, калі б хай сабе некаторыя з іх ператварыліся, як гэты бонскі хлебазавод, у культурныя цэнтры (з новымі працоўнымі месцамі, дарэчы). Напэўна, так яно і адбудзецца, калі камерцыйныя структуры канчаткова праглынуць пампезныя Палацы культуры, што засталіся нам ад эпохі сацыялізму.

**Наш кар.**



***У Міністэрстве культуры і друку адбылася чарговая планёрка, на якой разглядаліся працоўныя пытанні. У лістападзе адбудуцца наступныя мерапрыемствы:***

**10 лістапада.** Адкрыццё VIII з'езда Саюза кінематаграфістаў Беларусі.

**З 15 па 30 лістапада.** У Палацы мастацтва будзе працаваць выстава твораў мастака Ул.Маскоўскіх. Зараз жа (да 13 лістапада) экспануюцца творы І.Дмухайлы.

**17 лістапада.** Бенефіс народнага артыста Беларусі, саліста ДАВТ оперы і балета Віктара Чарнабаева.

**27 лістапада.** Бенефіс народнага артыста Беларусі, акцёра Нацыянальнага тэатра імя Я.Купалы Г.Гарбука.

***НОВЫ ЛІТАРАТУРНЫ МУЗЕЙ***

Першая міжнародная навукова-практычная канферэнцыя дырэктараў літаратурных музеяў прайшла ў кастрычніку ў Мінску на базе Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры. На ёй сабраліся спецыялісты музейнай справы Расіі, Украіны. Тэма канферэнцыі — "Літаратурны музей і культурна-асветніцкія задачы сучаснасці".

***АКНО Ў ЕЎРОПУ***

У Міністэрстве культуры і друку Беларусі быў падпісаны пратакол па ажыццяўленні праекта ЮНЕСКО "ЭГОРА", які ў 1994 годзе атрымаў назву "Натхнёная гісторыя". Пратакол падпісалі міністр культуры і друку РБ Анатоль Бутэвіч і кіраўнік праекта "ЭГОРА" Роберт І.Раземонд, які прыехаў з Нідэрландаў. Гэты праект прадугледжвае арганізацыю дэманстрацыі музейных калекцый трох дзяржаў — Беларусі, Украіны і Расіі — у краінах Заходняй Еўропы. Хочацца падкрэсліць, што праект "ЭГОРА" мае гуманны і дабрачынны характар, бо адна з яго галоўных мэт — павелічэнне фондаў дапамогі на ахову нацыянальных дасягненняў трох славянскіх дзяржаў.

***"ЛІСТАПАД" ПОСТСАВЕЦКАГА КІНО***

Фестываль постсавецкага кіно "Лістапад" даў магчымасць паглядзець беларусам шмат нашумеўшых ужо ў іншых краінах СНД фільмаў, якія ў наш пракат не трапілі. Арганізатары фестывалю, у тым ліку Саюз кінематаграфістаў Беларусі і студыя "Тем-АРС", прапанавалі нам 14 новых стужак. Сярод іх — "Падмаскоўныя вечары" В.Тадароўскага, "... І стаў свет" Атара Іасіліяні, "Рускі рэгтайм" Сержука Урсуляка.

***СЛЁЗЫ ПА "БЕЛЫХ РОСАХ"***

Дэфіцыт сродкаў, якія выдзяляюцца на культуру, не спрыяе стварэнню новых кінастужак. Менавіта з-за недахопу грошай у гэтым годзе на "Беларусьфільме" выйшлі толькі дзве мастацкія стужкі.

**Наш кар.**

# ТУТ ДАЮЦЬ ЕЎРАПЕЙСКУЮ АДУКАЦЫЮ І ВЫХОЎВАЮЦЬ ПАТРЫЁТАЎ

Студэнты — народ сімпатычны. У гэтым пераконваешся штораз. І калі глядзіш, як яны апранутыя, і калі размаўляеш з імі, і калі назіраеш, як весела збіраюцца дамоў пасля заняткаў. Многія з іх сапраўды спяшаліся па сваіх справах і на ўрачыстасць не засталіся. Аднак ветліва саступалі дарогу гасцям, усміхаліся, прапускалі ў чарзе ў гардэробе.

"Нашы святы — яшчэ наперадзе", — сказаў адзін малады чалавек з чародкі тых, каго я павіншавала з нагоды 60-годдзя факультэта. І сказаў, вядома, праўду...



А ў вялікай святочнай зале (дзякуй Богу, цяпер у гістарычнага факультэта ёсць свой будынак і ёсць такая зала) сабраліся шматлікія госці, выкладчыкі, сябры вучонага савета, прадстаўнікі грамадскасці. Грунтоўна і даволі доўга пра гісторыю гістарычнага факультэта распавядаў цяперашні яго дэкан Пётр Аляксеевіч Шупляк. 60 гадоў — пара мудрасці, пара сталасці, пара, калі можна падвесці вынікі і парадавацца ім.

А ганарыцца ёсць чым. Сярод выпускнікоў факультэта — міністры, акадэмікі, члены-карэспандэнты Акадэміі навук нашай краіны, вядомыя настаўнікі, эканамісты, сацыёлагі, народныя дэпутаты. Больш як 200 чалавек абаранілі доктарскія і кандыдацкія дысертацыі.

Доўгі час адзіным накірункам навучання быў партыйна-ўрадавы. Але на гэтым факультэце ўсё ж давалі студэнтам добрую гуманітарную адукацыю — адукацыю еўрапейскага ўзроўню. Асабліва калі самі студэнты гэтага хацелі, да гэтага імкнуліся. І гучалі на свяце прозвішчы: Пічэта, Ігнатоўскі, Нікольскі...

Як і належыць у такіх выпадках, факультэту-імянінніку выказвалі падзяку ягоныя выпускнікі, хто прыехаў, прыйшоў на гэтую ўрачыстасць: Таццяна Галко, Пятро Краўчанка, Аляксандр Іванчык, Ганна Сурмач, Алег Трусаў. Факультэт віншавалі і дарылі падарункі прадстаўнікі рэктарата і іншых факультэтаў БДУ, Мінскага педагагічнага і Гродзенскага універсітэтаў, ад Беларускага экзархата. Дарэчы, мітрапаліт Філарэт сабраў і перадаў у дар гістарычнаму факультэту бібліятэчку, у якой — найкаштоўная Астрожская біблія.

Уладзімір Карагін, старшыня Саюза прадпрымальнікаў, ён жа — выпускнік гістфака, згадваючы цёплым словам студэнцкія гады, вучобу на аддзяленні філасофіі, аб'явіў пра конкурс для цяперашніх студэнтаў. За лепшую студэнцкую работу па гісторыі нацыянальнай эканомікі і айчыннага прадпрымальніцтва Саюз прадпрымальнікаў устанавіў дзве грашовыя прэміі: студэнту-пераможцу ў памеры 6 мінімальных зарплат, кіраўніку — у памеры 10 мінімальных зарплат. Яны будуць уручацца штогод 15 чэрвеня — у дзень прадпрымальніка...

Гісторыя — багатае дрэва, у яго шмат галін. Сёння на факультэце, на аддзяленнях гістарычным, музеязнаўства і архівазнаўства, міжнародных зносін (апошнія два створаны ў 1992 годзе) навучаюцца каля 700 студэнтаў. Столькі ж — на завочным аддзяленні. Не малая армія! Прыемна было чуць ад цяперашняга кіраўніцтва, што на факультэце ўзяты курс на радыкальна новае, праўдзівае, максімальна аб'ектыўнае выкладанне гістарычных дысцыплін. І найперш — гісторыі нашай Радзімы. Глядзець на гісторыю суседзяў вачыма беларуса — гэта не афіцыйнае патрабаванне. Гэта хутчэй маральны абавязак спецыяліста, вучонага, педагога. Такія людзі на гістарычным факультэце Беларускага універсітэта ёсць. А гэта спараджае надзею, што духоўны суверэнітэт будзе ўмацоўваць і наш дзяржаўны суверэнітэт, наша годнае месца ў свеце.

**А.Т.**

СІТУАЦЫЯ

# НАСТАЛЬГІЯ ПА КУМІРУ

Калі спрэс скардзяцца на цяжар сённяшняга нашага існавання, на страту ідэалаў-ідалаў і да т.п., я толькі ўсміхаюся. Ёсць, ёсць у нашым грамадстве ідэалы! І доўга шукаць іх не трэба — на любой цэнтральнай плошчы больш-менш цэнтральнага горада (ці вёскі) стаіць Ён.

Часцяком Ён трымае рукі ў кішэнях ці за спіной, але ў асноўным Ён прасцірае адну з іх наперад. Не шукайце эзатэрычнага сэнсу гэтага "наперад" — накірункі, у адрозненне ад храмаў ці нават капішчаў, якія будаваліся ці на ўсход, ці на сонцастаянне, самыя розныя, у асноўным залежныя ад будынкаў былых райкамаў. Працягнутая наперад рука, сама па сабе, мае, аднак, глыбокі сэнс: яна паказвае некуды туды, куды не сягае чалавечае вока, у нешта накшталт зямнога раю, які не ўбачыць ніхто, але ўбачыць які спадзяваўся кожны.

Рай добры тым, што кожны ўяўляе яго пасвойму. Нехта спадзяецца там штодня слухаць музыку, што вышэй за Моцартаву. А нехта бачыць яго — як вялізную каўбасу, якая не мае канца і пачатку... Страціўшы сваё маленькае карытца і конаўку, на дне якой нешта плёскалася, той-сёй цяпер верыць, што ён ужо быў там, што яшчэ крыху — і галоўныя, запаветныя дзверы адчыніліся б і прасцёртая рука, нарэшце, упёрлася б у нешта пэўнае, канкрэтнае, зямное... І што варта вярнуцца назад, у тую кропку, дзе мы былі нейкіх дзевяць год назад, як зноў узнікне карытца і магічная перспектыва Раю...

Вось чаму да яго нясуць чырвоныя гваздзікі, перавітыя стужкамі і заклінаннямі "Да здравствует...". Вось чаму знаходзяць фарбу і грошы, каб падцэментаваць, падмаляваць, падчысціць аднолькавыя, як блізняты, помнікі.

І асабліва гэта прыкметна на Віцебшчыне — сапраўднаму чэмпіёну па гэтай настальгіі. Праедзьцеся па яе мястэчках і раённых цэнтрах, па самім Віцебску, дзе колькі гадоў таму нарадзілася ветэранская ідэя сабраць грошы (хаця самі ветэраны патрабавалі палепшыць іх жыццё) на ахову маўзалея ў Маскве і на ўтрыманне велізарнага Ленінскага музея.

Заедзьце на Полаччыну — і вы пераканецеся ў трагічнай заканамернасці: чым больш гістарычна слаўная гэтая мясціна, тым болей на ёй ленінскіх помнікаў, нібы нехта назнарок стараўся закрыць чорным ценем Ільіча тое, што яшчэ не ўдалося знішчыць... У Полацку яго псеўданімам названая найбольш цікавая і старажытная вуліца, каб нішто — ні Богаяўленская, ні лютэранская царква ці францысканскі кляштар, ці нават дамок Пятра І — не ўпаміналася без ягонага імені... Тут ажно тры помнікі — з 1949, 1959 і 1979 гадоў. Два помнікі Леніну ў Докшыцах, два — у Глыбокім, дзе, дарэчы, асноўная "гістарычная" вуліца, што склалася яшчэ ў мінулыя стагоддзі, таксама носіць імя таго, пра каго апошнія "Аргументы і факты" ў раздзеле "Як гавораць цяпер" пішуць: "Буйнейшы" злачынна таленавіты" рэвалюцыянер XX стагоддзя, галоўны творца жорстка цэнтралізаванага партыйна-савецкага рэжыму на тэрыторыі Расейскай імперыі, што атрымала назоў СССР. Дастаўлены на тэрыторыю Расіі ў пламбіраваным вагоне пры садзейнічанні германскага Генштаба. Архітэктар "чырвонага тэрору" супраць уласнага народа".

У кнізе Даніїла Андрэева, сына вядомага рускага пісьменніка Леаніда Андрэева, "Ружа Свету" ёсць містычны тэрмін "інвальтацыя" — што значыць свайго роду падкормка сіламі цемры тых постацей і асоб, што садзейнічаюць Злу. (Дарэчы, пра пасмяротнае жыццё Леніна ён піша як пра адмаўленне ад зла, зробленага пры жыцці.) Перажыўшы нікім не чаканы развал СССР, мы ўсё болей пачынаем прыслухоўвацца да містыкаў-філосафаў (сярод якіх, між іншым, былі такія сусветна вядомыя, як Аль-Газалі, Тэйяр дэ Шардэн і інш.) — і злавесныя цёмныя постаці першага стваральніка нечуванай па жорсткасці сістэмы, здаецца, сапраўды кідаюць на нашу зямлю нейкія цені бяды і спаралізаванасці, а нашы збяднелыя кабеты, што з фанатычным бляскам у вачах нясуць чырвоныя палотнішчы, нібыта і сапраўды інвальтаваныя іншым, нетутэйшым вымярэннем, у якім — кроў і попел, нялюдскасць і азвярэнне да асноў Быцця.

Можна, канешне, не ставіцца сур'ёзна да прадказанняў, што, пакуль на нашай зямлі будуць гэтыя помнікі, гэтыя выпраменьванні Зла, мы будзем спаралізавана таўчыся на месцы, не маючы сіл ні рухацца наперад, ні паўзці назад. Але калі ўспамінаеш, што на Беларусі знаходзіцца чвэртка (удумайцеся толькі ў гэтую неверагодную лічбу) усіх створаных у савецкі час помнікаў Леніну, а цяпер мы — самая бедная краіна былога СССР, то не абыякава, а з сапраўдным жахам глядзіш на шэсці, якія наладжваюць свайму бязлітаснаму куміру ў дні яго нараджэння і ягонага свята — 7 лістапада, як адбывалася і сёлета.

Адкрываюцца ўсё новыя Курапаты, дзе расстрэльвалі нявінных. Робяцца яўнымі новыя злачынствы, ад якіх уздрыгвае свет.

Але кумір, дагледжаны і зберажоны, стаіць скрозь па нашых гарадах і вёсках, і, кіруючыся за яго працягненай дланню, блытаюцца і сутыкаюцца ілбамі бедныя ашуканыя людзі, бо толькі яму аднаму было вядома, куды ён клічча...

**В.М.**

# "СЯРПАСТА-МАЛАТКАСТЫ" ЗАСТАЎСЯ... ПАД "ПАГОНЯЙ". НАРАДЖЭННЕ ТРАДЫЦЫІ?

У штодзённай мітусні мы і не заўважаем, як мяняецца аблічча сталіцы. І, напэўна, калі б аб тым не пісалі ўсе цэнтральныя газеты, многія мінчукі так і не звярнулі б ўвагі на тое, што летам на месцы старога "бэсэсэраўскага" герба



на Доме ўрада з'явілася "Пагоня". Былі, праўда, размовы пра тое, што стары герб так і застаўся пад новым. Сёй-той выказваў меркаванне, што проста не паспелі збіць, што пакінулі яго, бо спяшаліся скончыць работу да Дня Незалежнасці. А зрэшты, Бог з ёю, той "бэсэсэраўскай" эмблемай — усё роўна пад "Пагоняй" не відаць. Ды ўсё ж засталася трывога: а ці не пакінулі той, стары, да "лепшых часоў".

Трывога тая, аказваецца, была небеспадстаўная...

... З пятніцы 28 кастрычніка будынак КДБ, што на праспекце Скарыны, упрыгожвае "Пагоня", якая прыкрывае сабой (як і на пляцы Незалежнасці) стары герб. "Сярпаста-малаткасты" збіць чамусьці зноў "забыліся". Мо таксама спяшаліся да якой-небудзь даты? Прынамсі, да дня нараджэння камсамола ці гадавіны чырвонага кастрычніка?

Але для цікаўных адзначу, што аўтар выявы новай "Пагоні" на КДБ скульптар Сяргей Гумілеўскі загадзя быў папярэджаны, што ягоная работа цалкам павінна была закрываць герб БССР, не пашкодзіўшы яго. З гэтай прычыны, напэўна, вакол шчыта "Пагоні" (гл. фота) з'явілася своеасаблівае атачэнне. А таму само сабой напрошваецца пытанне: няўжо стары "бэсэсэраўскі" герб на будынку КДБ пакінулі па традыцыі? Па традыцыі, якая ўжо пачала ўсталёўвацца. "Пагоня" — гэта, маўляў, нешта часовае, як "адчэпка" перад грамадствам, а той, з пяціканцовай зоркай — родны.

На КДБ герб вешалі (замацоўваннем навечна гэта ніяк не назавеш) сярод белага дня, але гэткая працэдура не сабрала натоўпу цікаўных. Людзі на хвіліну падымалі вочы і, не спыняючыся, заходзілі ў дзверы гастранома насупраць... Ды і гаспадары жоўтага дома з белымі калонамі не праявілі ніякай цікавасці да змен на фасадзе будынка...

... Толькі каменны Фелікс Эдмундавіч бачыў усё са сквера, стоячы на сваім абноўленым нядаўна п'едэстале... Ці тое ён пабачыць яшчэ...

**Алеся КЛІМОВІЧ**

# АДКУЛЬ У СТУДЭНТА СКУРАНАЯ КУРТКА

***Маніфестацыя студэнтаў 14 кастрычніка выклікала далёка не адназначную рэакцыю як у грамадстве, так і сярод прадстаўнікоў прэсы. Адны прахожыя ў той дзень назіралі за шэсцем маладых людзей па праспекце да "Белага дома", што на пляцы Незалежнасці, з жалем, іншыя пагардліва казалі: маўляў, з тлушчу бесяцца. Адны перыядычныя выданні далі аб гэтым выступленні фотарэпартаж з некалькімі радкамі інфармацыі аб колькасці маніфестантаў і цытаванні слоў сп.Лябедзькі. Праўда, фотаздымкі былі больш красамоўнымі за словы: плакаты з надпісамі "Дзякуй прэзідэнту за хлеб і малако!", "Я хачу есці!" гаварылі самі за сябе. А вось "Настаўніцкая газета" надрукавала фота групы студэнтаў, якія не рушылі па праспекце, а спецыяльна пазіравалі рэпарцёру. І подпіс: што, маўляў, хочуць гэтыя маладыя людзі, апранутыя ў скураныя модныя замежныя курткі, з вясёлымі ўсмешкамі на тварах? Выснова ў любога чытача напрошвалася сама: выйшлі хлопцы і дзяўчаты "павыкалвацца" ад няма чаго рабіць, час вольны на паветры пабавіць, на людзей паглядзець і сябе паказаць. А ўжо на хлеб і малако ім хапае, калі скураныя курткі апранулі... У аўтаркі гэтага дзённіка таксама ёсць скураная куртка. На яе твары часта бывае вясёлая ўсмешка. І на пляц Незалежнасці яна не хадзіла. Але... "скуранку" набыла на адпускныя маці і на грошы за прададзеную цялушку. А вясёлая ўсмешка — не ад забяспечанага жыцця, а таму, што дзяўчыне ўсяго дваццаць... Калі студэнт сёння добра апрануты, гэта не значыць, што ён не галодны...***

***... А ў 18 — 20 гадоў так хочацца адчуць сябе хоць адносна незалежным ад старэйшых! А на стыпендыю...***
***Што можна дазволіць сабе на стыпендыю — напісана ў гэтым нявыдуманым дзённіку.***

26 верасня... Сягоння цудоўны дзень! Нарэшце Лёша (наш староста курса) прынёс стыпендыю. Першую ў гэтым навучальным годзе. З індэксацыяй за лета і нейкай кампенсацыяй. Ажно 34 тысячы (340 па-старому, ніяк яшчэ не магу прывыкнуць). А гэта, можа, і лепш, што не прывыкла. Нядаўна купіла паўлітра смятаны ўсяго за тысячу з капейкамі. Прыемна здзівілася — танна. Толькі потым дайшло, што не тысяча, а ўсе адзінаццаць. Вось яно, дадэнамінатыўнае мысленне... 34 тысячы! Даўно я не трымала такіх грошай у руках. Што ж з імі рабіць? Напэўна, трэба тысяч 25 памяняць на даляры. Добрая справа — даляр хутка расце, буду пасля мяняць патроху. Хоць нейкі прыбытак атрымаю. Заўтра ж пайду на "Дынама" дый памяняю. За 25 тысяч вазьму 6 "баксаў". Хай будуць свае...

27 верасня... Як жа! Памяняла! Успомніла сёння раніцай, што пазыку 9 тысяч трэба аддаць. Напазычала, называецца! А што: жыць жа неяк трэба было два тыдні. Стыпендыі не было, маме пенсіі яшчэ не налічылі (нядаўна афармілася)... Пазыку аддала, схадзілі ўчора з сяброўкай на радасцях у кафэ-марожанае, карацей, засталося тысяч дваццаць. Нічога, на жыццё хопіць. На наступныя выхадныя з'езджу дадому, вазьму чаго паесці!.. Праўда, з'ездзі зараз! Толькі ад родненькага раённага цэнтра да дому — амаль паўтары тысячы "зайцоў". У будні дзень — трыста шэсцьдзесят, а ў пятніцу і выхадныя — паўтары тысячы. "Свабодныя тарыфы" называецца. Пазаўчора ехала ў Мінск, дачнікі ўсе ногі сваімі клункамі аддавілі. Як кажуць, ехала з шыкам. Па "свабодных тарыфах". Што ж ты зробіш, дадому ўсё роўна ехаць трэба... Ой, гэта ж у мамы Дзень настаўніка ў нядзелю! А ў Люсі-сяброўкі — дзень нараджэння! Трэба будзе купіць падарункі...

29 верасня... Купіла маме кітайскую ручку, Люсі — парфюмерны набор. "Ляснула" яшчэ сем тысяч... Сёння працёрла апошнія туфлі. На падэшве з'явілася добрая такая дзірка. Карацей, "рамонту не падлягаюць". Нічога, заўтра паеду дадому, можа, мама прафундуе пакупку чаравікаў...

2 кастрычніка... Сёння ехала з дому ўжо ў свабодным аўтобусе. Людзі бульбу выкапалі, цяпер яшчэ кожны падумае, ехаць па тых "тарыфах" ці не... У электрычцы, праўда, як заўсёды, натоўп. І куды толькі ўсе ездзяць? ...Сумку з вакзала ледзь давалакла. Пакавала з разлікам на тое, што да інтэрната даеду на трамваі. Калі летам закрывалі лінію, казалі, што рух адновіцца з першага кастрычніка. Дзе там! Тых трамваяў і пагатоў няма! Цягнула сумку ў руках цэлы кіламетр, як дурань дрэвы. Ну, ды нічога, затое цяпер з голаду не прападзем...

... Мама на чаравікі выдзеліла толькі 25 тысяч. Пенсіі яна так і не атрымала яшчэ. Жывуць на бабуліну, ды на дапамогу, што мне за бацьку плацяць. А ёй налічаць толькі ў сярэдзіне месяца. Затое ўжо як налічаць! Мы разлічваем тысяч на 75 у месяц (суседка Стася, былая даярка, атрымлівае 70, а мама трыццаць пяць гадоў настаўніцай была). Вось як атрымае яна пенсію адразу за тры месяцы — во будзе здорава! Куплю сабе на маразы добрыя зімовыя боты — так мы з мамай вырашылі.

9 кастрычніка... Учора, нарэшце, купіла чаравікі. За 32 тысячы. Нішто такія. Цяпер я ў чаравіках, і ні капейчыны, як кажуць, у кашальку. За доўгачаканай пакупкай ездзіла ажно ў Баранавічы: за такія грошы на сталічным базары нічога талковага не купіш, а там фабрыка індпашыву з машыны прадае. Выклала ўсе грошы. Сястра толькі і змагла на дарогу пяцьсот рублёў пазычыць. Сама з сям'ёй на бабах, ні яна, ні муж зарплаты яшчэ не атрымлівалі...

... Пахаладала, аднак... Сёння буду спаць у швэдары і шкарпэтках. Заўтра трэба ў інтэрнацкім пакоі заклеіць вокны...

10 кастрычніка... Сёння, пакуль сядзела на занятках, нават нос змерз. Першакурсніца, суседка па пакоі, расказвала, што ў іх сёння амаль усе пісалі ў пальчатках...

... Заклеілі вокны. Але ад гэтага цяплей не стала. А я яшчэ нядаўна прыняла халодны душ. У нас у інтэрнаце цяпер так заўсёды: з раніцы з крана ідзе амаль кіпень, а пад вечар — вадзіца пакаёвай тэмпературы. Як у вадаёмах рэспублікі летам... Пазычыла ў Аксанкі да стыпендыі пяць тысяч — на хлеб і малако. Нічога, два тыдні як-небудзь працягну. Бульбу з дому навезла, а марожанае і булачка — гэта раскоша, абыйдуся і без іх... не ўпершыню.

11 кастрычніка... Як і прадбачыла, купанне пад душам і здаровае марознае паветра ў пакоі вылезла мне бокам. Насмарк такі, што ледзь дыхаю. Але на заняткі пайшла. Якая розніца, дзе мёрзнуць? Там хоць весялей...

... Напэўна, самае цёплае месца ў Мінску — метро. Здаецца, і начаваў бы ў ім...

12 кастрычніка... Пазваніла маме. Ёй налічылі пенсію ўсяго 42 тысячы за месяц. Мама ледзь не плача. Не ад таго, што мала грошай, — ад крыўды. Трыццаць пяць гадоў у школе, амаль штогод — класнае кіраўніцтва і паўтары стаўкі. І вось — падзяка. Нейкі там каэфіцыент выйшаў малы... Плакалі мае новыя боты. Ну што ж, занясу ў майстэрню старыя, зіму яшчэ перахаджу...

Зайшла ў аптэку: мо ёсць што ад прастуды. Канешне, ёсць. Па тры-чатыры тысячы (па-новаму, я ўжо не блытаюся). Купіла ўпакоўку аскарбінавай кіслаты. У мяне этап не пачатковы, але, як з'ем усе адразу — можа, і дапаможа...

14 кастрычніка... Сёння нашы хадзілі на плошчу Незалежнасці з плакатамі. Я не пайшла — няма здароўя. Ды і ніякага толку яны, я думаю, не выхадзілі... А даляр усё расце... Сёння купляюць за 5600. А тады, як я збіралася мяняць, быў 4200. Неблагая б была прыбаўка... Але за што б я тады купіла чаравікі?..

17 кастрычніка... Сёння ўжо адлеціліся батарэі. Аж жыць стала весялей. Кажуць, з 1 лістапада мінімальную зарплату падымуць... І стыпендыю... І цэны...

20 кастрычніка... Нарэшце пайшлі трамваі... Паеду сёння дадому. Вось думаю: купіць батоны ці не? У Мінску за 253 рублі можна ўзяць, а ў нас менш чым за 600 не купіш. Ды і то — не батон, а шэрая цагліна вытворчасці хлебазавода роднага райцэнтра... Тым больш на днях хлеб падаражае... У мяне ў кашальку тысяча. А раптам праезд падаражэў? Калі не — хопіць і на батон, і на білет: мама па тэлефоне казала, што "свабодных тарыфаў" ужо няма...

24 кастрычніка... Сягоння цудоўны дзень! Староста Лёша, нарэшце, прынёс стыпендыю. Ажно 28 тысяч! Заўтра ж пайду на "Дынама", памяняю на даляры. ...Вось толькі пазыку аддам. І ў кафэ-марожанае на радасцях з сяброўкай сходзім...

**Гартала дзённік беднай студэнткі і зрабіла з яго вытрымкі**
**Алена ЛЯЎКОВІЧ**

**P.S.** На двары лістапад. У студэнцкім дзённіку з'явяцца новыя запісы. І наўрад ці засведчаць яны пра нейкую палёгку жыцця... Інфляцыя прадыктавала чарговае падвышэнне цэнаў. Але зразумела адно: студэнт зацягне пас яшчэ шчыльней...

**А.Л.**

ВЫТОКІ

# СВЯТА БЕЗ АФІШЫ

Пра Салігорск і цяпер можна казаць і пісаць: вялікі, светлы, прыгожы. Такім, безумоўна, лічаць яго ягоныя жыхары. Хоць і ведаюць: Салігорск адзін з самых неспрыяльных у экалагічных адносінах. За што любяць? Калі б рабілася сацыялагічнае даследаванне, то, магчыма, спектр адказаў быў бы куды шырэйшы і размаіты. Нам жа давялося чуць ад сваіх суразмоўцаў пераважна адны і тыя ж словы: "Я тут жыву...", "Я тут нарадзілася..." Проста, без пафасу і хітрыкаў, без пастуквання сябе ў грудзі: я патрыёт. Аднак жа патрыёты! Заўважаць такую шчырую прывязку да роднага месца ў маладым інтэрнацыянальным горадзе (Салігорску крыху больш за трыццаць) удвая прыемна. Аднак гэта хутчэй выключэнне з правіла, чым самое правіла.

У свой час ідэалагічны тэзіс "Мой адрес — не дом и не улица", па-майстэрску ўкляпаны ў папулярную песеньку і прызначаны ледзь не на галоўную ролю выхавання маладых людзей у якасці homo sovetikus — без памяці, гісторыі, традыцыяў, — нарабіў нямала шкоды. Без сумневу, Салігорск горад савецкі (зрэшты, што кепскага ў гэтым слове?). А вось ці беларускі ён?

У сярэдзіне кастрычніка, акурат на Пакровы ды наступным днём было наладжана ў Салігорску Свята беларускага слова. Шмат хто спрычыніўся да яго арганізацыі. Але ініцыятарам, натхняльнікам, вядучаю свята была незаменная Марыя Сцяпанаўна Мацюкевіч.

Пра Марыю Сцяпанаўну, настаўніцу беларускай мовы і літаратуры, наша газета трошкі пісала. Яна ўзначальвае Таварыства беларускай мовы Салігоршчыны. Выдае газету. Можа, не так часта, як хацелася б, але ў паўнавартасным паліграфічным афармленні, накладам амаль у тысячу асобнікаў (дакладней — 999) газета ўжо каторы раз знаходзіць дарогу да свайго чытача. Скажыце, ці шмат на Беларусі філій ТБМ, якія маюць свой друкаваны орган?

У газеты незацяганая назва — "Рагнеда", выразны эпіграф: "Памятай, беларус, што і ты чалавек..." Тут друкуюцца разнастайныя і цікавыя матэрыялы па гісторыі нашай краіны, пра яе знакамітых людзей, змагароў за волю і незалежнасць, падзеі сённяшняга дня.

Спецыяльна для гасцей з Менска Марыя Сцяпанаўна правяла паказальны ўрок у адным з дзевятых класаў. Гасцей было нямала: пісьменнікі, навукоўцы, трое журналістаў, паэт-бард, народны дэпутат.

Ян Баршчэўскі... На жаль, вывучэнне спадчыны гэтага надзвычай цікавага, унікальнага мастака слова пачатку XIX стагоддзя, які мусіў пісаць па-польску, не ўваходзіць у школьную праграму. Аднак Марыя Сцяпанаўна палічыла за неабходнае пазнаёміць сваіх выхаванцаў з дзівоснымі, фантастычнымі апавяданнямі "Шляхціца Завальні". Не ведаць іх — усё адно што не ведаць нічога пра славутыя казкі "Тысяча і адна ноч", а творы перагукваюцца жанрамі.

"Яна выбрала самы слабы клас, — скажа мне "па сакрэту" адна з настаўніц (калегі Марыі Сцяпанаўны таксама прысутнічалі на адкрытым уроку). — А паглядзіце, як раскрыліся, як загаварылі дзеці — душа радуецца! Вось што значыць сапраўдны педагог".

Душа сапраўды радуецца — за настаўніцу, улюбёную ў сваю справу, і за дзяцей. У іх не было праблемаў, дзе ўзяць кнігу, каб прачытаць твор. Пра гэта паклапацілася Марыя Сцяпанаўна, і калі не на двух, дык на трох вучняў адна кніга абавязкова ды прыпадае. Бібліятэка кабінета мовы і літаратуры — гордасць Марыі Сцяпанаўны.

А ёсць яшчэ кіёск. У ім прадаюцца выданні ТБМ, даведачная літаратура, творы беларускіх пісьменнікаў, замежная класіка, перастворaная па-беларуску. У дзень свята беларуская кнігарня ў горадзе папоўнілася новымі набыткамі. Кнігі, выдзеленыя рэспубліканскай радай ТБМ, прывёз у Салігорск народны дэпутат Алег Трусаў.

Што ўразіла на ўроку? Не толькі добрае веданне вучнямі тэкстаў арыгінала, не толькі іх імкненне, і даволі паспяховае, прааналізаваць твор, а можа найперш... вымаўленне. Сакавітае, правільнае, вельмі натуральнае. Вось бы на ўрокі да Марыі Сцяпанаўны некаторых дыктараў ды журналістаў Беларускага тэлебачання! Хай бы павучыліся культуры маўлення і не курочылі невінавате беларускае слова. Сваіх выхаванцаў Марыя Сцяпанаўна навучыла абыходзіцца з родным словам вельмі беражліва, прыгожа. А можа, атрымаўшы пэўны штуршок, у дзяцей абудзілася генетычная памяць?

Кажуць, у такіх гарадах, як Салігорск, не можа існаваць іншае мовы, акрамя інтэрнацыянальнай, і заўсёды на ўвазе аматары падобнае тэорыі маюць чамусьці адну толькі мову — мову суседняй усходняй дзяржавы. Але статыстыка сведчыць: у тым жа Салігорску ў кожнай агульнаадукацыйнай школе вучацца пераважна дзеці-беларусы. 92 працэнты — найменшы іх працэнт сярод навучэнцаў розных нацыянальнасцяў, 98 працэнтаў — найбольшы. Здавалася б, на добры лад ды розум, нават пытання пра тое, на якой мове навучаць беларусаў у Беларусі, не павінна стаяць на парадку дня. Аднак яго ставяць.



Здавалася, лёд крануўся. У дзевяці школах вучні пачатковых класаў вывучаюць усе прадметы на дзяржаўнай мове. Тут ствараецца пэўнае беларускае асяроддзе. Аднак ёсць цяжкасці, ёсць праблемы. Старшыню рады ТБМ турбуе, што аддзел адукацыі яшчэ ні разу не праводзіў атэстацыі кіруючых кадраў на прадмет валодання дзяржаўнай мовай. Хаця Закон аб мовах у краіне дзейнічае чатыры гады, ёсць на тое адпаведная пастанова Міністэрства адукацыі. І вельмі засмучае, што і сёлета гарадскі аддзел адукацыі прызначаў на пасады намеснікаў дырэктараў беларускамоўных школ людзей, якія не валодаюць дзяржаўнай мовай, перашкаджаюць справе адраджэння. А то і ўвогуле дзе-нідзе невукі пры пасадах узрадаваліся: нашто тая беларуская мова, калі прэзідэнт рэспублікі не надта яе ўхваляе, сам на ёй не гаворыць, трызніць то пра аднаўленне СССР, то пра ўваходжанне ў Расію. Мо таму і запыніўся пераход на беларускую мову ў выканаўчых структурах горада і раёна, што няма належнага прыкладу зверху?..

Зноўку дратуецца роднае слова? Зноў мы будзем маўчаць і дамо абуць сябе ў лапці? Марыя Сцяпанаўна не згаджаецца. Яна пратэстуе — гнеўныя словы супраціву выліваюцца ў паэтычныя радкі. Яна пратэстуе — і наладжвае свята беларускага слова. Свята вымагае грошай. Яна знаходзіць фундатараў-дабрадзеяў і просіць журналістаў — назавіце гэтых бескарыслівых людзей: таварыства з абмежаванай адказнасцю "БелПВТТА" (кіраўнік Леанід Ясінаў), фірма "Лотас" (кіраўнік Аляксандр Цыбулька), народнае прадпрыемства "Трэстшахтаспецбуд" (кіраўнік Валерый Сталяроў), сябры незалежнага прафсаюза аб'яднання "Беларуськалій" (старшыня Мікалай Новік).

Пранікнёнай, светлаю нотай у канву задуманага Марыяй Сцяпанаўнай свята ўпісаўся юбілей Лявона Случаніна, паэта-земляка. 15 кастрычніка гэтаму чалавеку споўнілася 80. Лявон Случанін (Лявон Рыгоравіч Шпакоўскі) — трагічная постаць у беларускай літаратуры. Двойчы ён трапляў у пекла сталінскіх лагераў. Можа, роднае слова, паэтычная муза і ўратавалі ягоны дух і цела...

У 30-я гады Лявона Случаніна, студэнта Мінскага педагагічнага інстытута, блаславіў на паэтычны шлях Янка Купала. Юнак настаўнічаў у Чэрыкаве, пісаў вершы, тут яго і напаткала хваля рэпрэсіяў — быў асуджаны на дзесяць гадоў. Два гады і два месяцы адбыў нявольнік на Волгабудзе. Пасля высветлілася, што малады чалавек ні ў чым не вінаваты.

У гады вайны Лявон Рыгоравіч працуе ў беларускай школе. І шмат піша, друкуе вершы ў "Беларускай газеце", "Голасе вёскі", у часопісе "Новы шлях". Не так даўно Наталля Арсеннева згадвала, што яе вельмі захаплялі паэтычныя радкі маладога Случаніна. У гэты час была створана гістарычная паэма "Рагнеда" — бадай, лепшы ягоны твор, які быў выдадзены асобнаю кніжачкай у Вільні ў 1944 годзе. Пазней паэму перавыдалі беларусы ў Аўстраліі. У 1991 годзе яе надрукавалі шматтыражка "Калійшчык Салігорска" і часопіс "Спадчына".

Клопатам Марыі Мацюкевіч "Рагнеду", як літаратурны дадатак да газеты з гэткаю ж назвай, тым жа накладам у 999 асобнікаў, выдалі сёлета ў Салігорску, якраз да 80-годдзя аўтара. Гэтую невялікую, кішэннага фармату кніжачку мелі шчасце атрымаць удзельнікі свята, дарэчы, з аўтографам аўтара. Інтэлігенцыя горада адкрыла для сябе імя паэта і ўведала, што Случанін з тутэйшых мясцін, а ў Салігорску жыве з 1973 года, бадай, выпадкова — на ўстаноўчым сходзе па ўтварэнні ТБМ. Але не быў выпадковы прыход ды ўдзел самога Лявона Рыгоравіча ў такой высакароднай справе, як нараджэнне Таварыства беларускай мовы — "мовы для чыстай паэзіі годнай, мовы прыгожай, спрадвечнай, народнай".

"Памятай, беларус, што і ты чалавек..." Гэтыя словы Лявона Случаніна з ягонай вядомай паэмы сталі не толькі эпіграфам газеты, якую рэдагуе Марыя Мацюкевіч. Яны сталі назовам, лейтматывам літаратурна-музычнай кампазіцыі, прысвечанай шаноўнаму імяніннніку. Кампазіцыю падрыхтавалі Марыя Сцяпанаўна і яе выхаванцы. Пазней Марыя Сцяпанаўна наважылася, падышла да юбіляра і спытала:

— Чаму Вы, будучы на амерыканскай тэрыторыі ў Нямеччыне, не паехалі, як іншыя, за акіян, а вярнуліся? Пасля гэтага быў лагер, варкуцінскія шахты, пазбаўленне правоў. Каб ведалі, што такі лёс чакае Вас наперадзе, напэўна, засталіся б?

У адказ пачулася:

— Ні ў якім разе...

"Мы, беларусы, сентыментальныя скрыпкі, раскісаем без Радзімы й ляцімо да яе на загубу. Нас можна так вылушчыць да апошняга, ап'янелых любоўю да сёлаў! Трэба жыць розумам, а святасць пачуццяў захаваць аж на дно душы..."

Так напісала пра сябе, пра свае пачуцці, пра свой уласны, горкі вопыт нязломная змагарка і паэтка Ларыса Геніюш. Напісала — нібы падагуліла матывы паводзінаў многіх і многіх светлых душою, свядомых інтэлігентаў Беларусі, пакараных сістэмай за сваю беларускасць. Лявон Рыгоравіч дагэтуль не рэабілітаваны. Хаця што за правіны ў чалавека, які настаўнічаў і пісаў вершы? Ён глядзіць прасветлена на маладзенькіх дзяўчатак. Яны віншуюць яго з днём нараджэння, дораць яму расістыя восеньскія хрызантэмы і зычаць здароўя і плёну. Ён расчулены, але маўчыць.

Яго віншуюць пісьменнікі і госці з Менска. Яны нахадзіліся, напрацаваліся — сустракаліся з дзецьмі ў школах, са студэнтамі педагагічнае вучэльні. Напярэдадні такія сустрэчы адбыліся ў краязнаўчым музеі і гарадской бібліятэцы — з чытачамі, інтэлігенцыяй. Паэт Сяргей Панізьнік пра свята ў Салігорску выказаўся метафарычна: тут, у нетрах зямлі, вялізнае багацце, а на паверхні, можа, яшчэ большае. І меў ён на ўвазе не толькі тых, пра каго мы тут расказалі.

Мне чамусьці думалася пра рэчы вельмі зямныя і канкрэтныя. Чаму аб'явы пра свята, развешаныя ў людных месцах, нехта гэтак хутка сарваў, знішчыў, каб і следу не засталося?

Можа, каб не гэтыя зламыснікі, аб'яву прачыталі б мае сваякі — дзядзька Пеця ды цётка Люда, пенсіянеры, зусім нядаўна шахцёр і прасавальшчыца дзіцячага садка. І прыйшлі хаця б на адну сустрэчу. Яны хацелі, але не ведалі. У Салігорску такіх, напэўна, не двое...

**Алена ТРУСАВА**

*На здымку:* кветкі — шаноўнаму юбіляру, земляку-паэту Лявону Случаніну.

**Фота Віктара СТАВЕРА**

# БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛІЗМ

Распад Усходняга блока і СССР адбыўся адначасова з пачаткам новай фазы Еўрапейскай інтэграцыі, якая ў сваю чаргу з'яўляецца самастойным, не звязаным з падзеямі ва Усходняй Еўропе працэсам. У выніку неабходнасці фінансавання Маастрыхцкіх праграмаў краіны Еўрапейскага Саюзу сёння не маюць дастатковых рэсурсаў, каб істотна дапамагчы краінам былога Усходняга блока. Не маюць такіх рэсурсаў сёння і ЗША. Крах вайсковага патэнцыялу Усходу дадаткова спрыяе правядзенню Еўрапейскім саюзам эканамічнай палітыкі, адасобленай ад новых дэмакратыяў Еўропы. У выніку рэзкага памяншэння ўплыву ў рэгіёне Расіі, недахопу ў ёй рэсурсаў, патрэбных, каб аднавіць тут свой уплыў, мы бачым у рэгіёне Усходняй Еўропы вымушаны рост нацыянал-фундаменталізму як адзінага сродку забяспечыць грамадскую стабільнасць ва ўмовах рынкавых рэформаў і развалу ў галінах эканомікі, раней "завязаных" на ўсесаюзную эканамічную прастору.

З другога боку, у сённяшняй Еўропе ўсходнееўрапейскі нацыянал-фундаменталізм адрозніваецца адсутнасцю ўстойлівай гістарычнай перспектывы. Самае вялікае ягонае дасягненне — дактрына Балтыйска-Чарнаморскага саюзу — (БЧС) — рэальная толькі як дактрына наступальніцкая, прызваная за кароткі час забяспечыць краінам-удзельніцам задавальненне іхніх грандыёзных сыравінных праблемаў. А значыцца, гэта — дактрына рашучага супрацьстаяння або Расіі, або Еўрапейскаму Саюзу, якія ўжо кантралююць адпаведныя сыравінныя рэсурсы. Можна быць упэўненым, што нават дзесяці гадоў на падрыхтоўку такога новага перадзелу свету, якія мела ў падобных умовах у свой час Германія, краіны БЧС ад суседніх геапалітычных монстраў не атрымаюць, як не бачна для БЧС і свайго партнёра па новым Рапальскім пакце. Таму нацыянал-фундаменталізм Усходняй Еўропы з'яўляецца не больш чым вонкавай ідэалагічнай формай для падтрымання ў стабільнасці сваіх хутка маргіналізуемых грамадстваў, ідэалогіяй пануючых палітычных элітаў. Па меры станаўлення Маастрыхцкага Саюзу і стабілізацыі Расіі трэба чакаць у дадзеным рэгіёне новай ідэалагічнай трансфармацыі.

Выпусціць джына нацыянал-фундаменталізму з бутэлькі можа толькі геапалітычны крах Расіі, які зробіць непазбежнай і жыццёва неабходнай для ўсяе Еўропы рэалізацыю ідэі БЧС як шчыта ад Расійскага хаосу.

Беларусь выступае часткай рэгіёна, культуры якога развіваюцца пад уплывам адных і тых жа імпульсаў. Агульнай іхняй характарыстыкай выступае рост нацыянал-фундаменталізму як часовай культурна-ідэалагічнай формы пажывання грамадства ва ўмовах дэіндустрыялізацыі і адсутнасці прытоку капіталаў для структурнай перабудовы эканомікі з-за мяжы, пакуль не адбудзецца станаўленне Маастрыхцкай сістэмы і геапалітычнай стабілізацыі Расіі.

Але сучасную культуру характарызуюць і некаторыя ўласныя рысы. Найперш гэта моцная культурна-палітычная кансалідацыя вакол усходне-беларускага прамысловага ачага пры адначасовым падпарадкаваным захаванні жорстка вызначаных рэгіянальных культураў. Трэба адзначыць, што дадзенай заканамернасці падпарадкуецца і функцыянаванне культураў нацыянальных меншасцяў, якія слаба выражаныя і часта нагадваюць лакальныя варыянты беларускай культуры (напрыклад, палякі, расійцы, яўрэі).

Апазіцыя ў Беларусі не здолела стварыць устойлівай і значнай карпарацыі рэгіёна або сацыяльнага носьбіта ейных ідэяў, што і немагчыма было пры рэальнай ступені палітыка-эканамічнай кансалідацыі грамадства Рэспублікі пад панаваннем старой эліты. А старая эліта была захоплена "перабудовай" у момант зорнага часу яе дзейнасці, калі распачалася індустрыялізацыя захаду Беларусі на грунце развіцця тут самых перадавых галінаў прамысловасці, у першую чаргу радыёэлектронікі. І, зразумела, пераход ад рэалізацыі курсу на адну з самых развітых у тэхналагічным сэнсе краінаў Еўропы да стабілізацыі дэіндустрыялізаванага і культурна дэградаванага грамадства — справа ў культурна-ідэалагічным сэнсе няхуткая.

Па структуры культуры Беларусь сёння нагадвае Паўночную Амерыку з панаваннем у грамадстве не этнічнай, а палітычнай, прагматычнай ідэалогіі, з развітымі, падпарадкаванымі гэтай ідэалогіі рэгіянальнымі культурамі, з элітай, чыё панаванне забяспечана толькі існаваннем высокатэхналагічнага прамысловага комплексу, які патрабуе актыўнай знешнеэканамічнай дзейнасці, з насельніцтвам, большасць якога на працягу жыцця аднаго-двух пака-

## КАНТРАМАРКА

# ЗАГАДКА, ТАЯМНІЦА, ЦУД
## ТАДЭВУШУ КОКШТЫСУ — 60 ГОД

Загадкі, таямніцы сілкуюць любое мастацтва, надаюць яму нябачныя энергетычныя імпульсы. Сумная ж "адкрытасць", "уцямнасць" для лянівага, непрыдзірлівага вока нішчыць яго магутнасць, ператварае мастацкі тэкст у сухі інфармацыйны радок, філасофскую альбо маральную догму. Акцёр-загадка, акцёр-таямніца — галоўная цэментуючая сіла сучаснага спектакля. Ён з'яўляецца перад намі, нібы знаёмы з дзяцінства добры чараўнік Оле Лукойе. Ледзь узмахнуў чароўным кійком, і адкрыўся нязведаны цуд казачна-тэатральнага пераўвасаблення.

Вось такім падаецца Тадэвуш Антонавіч Кокштыс, народны артыст Беларусі. Без яго здабыткаў наўрад ці можна ўявіць сённяшні дзень беларускага тэатра, ды і яго нядаўнюю гісторыю. Распавядаючы пра яго творчы шлях, варта пачаць ад самага пачатку яго жыцця.

У Маладзечанскім раёне ёсць вёска Хоўхла. Назва жамойцкая, але бальшавікі, якія прыйшлі сюды ў 1939 годзе, і яе "зрусіфікавалі" ці "абсаветчылі" — цяпер яна Хоўхлава. Месца гэта асаблівае.

Тут калісь жыў і працаваў выдатны беларускі асветнік Сымон Будны (сярэдняя школа зараз носіць яго імя). Падчас расейска-шведскай вайны тутэйшае мястэчка было ўшчэнт зруйнавана, нібы пад зямлю праваліласа, ды засталіся сляды муроў, камяніц. Пазней адрадзілася. І яшчэ адзін чалавек зробіць яе знакамітай — Тадэвуш Кокштыс.

"Ён са страху стаў таленавітым, вынаходлівым", — так скажа аб яго героі Расплюеве з камедыі А.Сухаво-Кабыліна "Вяселле Крачынскага" рэжысёр спектакля Барыс Эрын. Такая ўжо, відаць, акцёрская доля, такі ўжо лёс наканаваны, што лепшыя і горшыя якасці мастацкіх персанажаў "прымерваеш" на сябе, "дапасоўваеш", далучаеш да сваёй біяграфіі. З маленства ён жыў у нейкім сваім, асаблівым свеце. Свеце малюнкаў, што рабіў бацька, і показак, што распавядала маці. У дзіцячых снах яму мроіліся казлавухія чэрці, вядзьмаркі, прывіды. Дакладныя навукі яму не даваліся: ён і зараз не можа ўцяміць, якім чынам пераходзіў з класа ў клас. Прырода, музыка (у хаце быў грамафон і цэлы стос пласцінак), выяўленчае мастацтва і людзі — шчодрыя, зычлівыя, добрыя, гэтаксама як і жорсткія, хцівыя, сквапныя — былі яму куды больш цікавымі, падуладнымі яго разуменню.

Цяжка паверыць, але да паступлення ў тэатральна-мастацкі інстытут ён ніколі не быў у тэатры, не бачыў "жывых" акцёраў. І толькі ў час вучобы трапіў упершыню да купалаўцаў. Гэта быў спектакль "Чайка", паводле меркаванняў крытыкаў — слабая, невыразная работа, але ў будучага майстра беларускай сцэны ўражанні былі надзвычайныя. Кіраўніком акцёрскага курса, на які амаль выпадкова трапіў Кокштыс (спачатку ён падаваў дакументы на мастацкі факультэт), быў знакаміты Дзмітрый Аляксеевіч Арлоў. Разам з ім вучыліся Георгій Дубаў, Генадзь Гарбук, Яўген Шабан, Тамара Шашкіна — сузор'е талентаў!

Пасля заканчэння БДТМІ трапіў на славутую коласаўскую сцэну. Гэта яго першы і адзіны на ўсё жыццё тэатр. Як прызнаецца сам Тадэвуш Антонавіч, яму шанцавала і зараз шанцуе на партнёраў па працы, на драматургаў, на добрыя ролі. Прыйшоў у трупу ў 1958 годзе, працаваў поруч з А.Ільінскім, Ц.Сяргейчыкам, М.Звездачотавым, А.Шэлегам, А.Трусам, Я.Глебаўскай. Праўда, першыя дзесяць год галоўных роляў амаль не меў, але ў эпізодах быў заўважаным. Нарэшце ў 1969 годзе галоўны рэжысёр тэатра С.Казіміроўскі даручае яму ролю Труфальдзіна ў п'есе К.Гальдоні "Слуга двух гаспадароў". Камедыя дэль артэ — рэдкі госць на



беларускай сцэне. Ці магчыма было спалучыць рэалістычна-бытавую манеру акцёрскага існавання тых часоў з адкрытай тэатральнасцю, вострым гратэскам, імправізацыйным малюнкам? Коласаўцы, а найперш Тадэвуш Кокштыс, дасягнулі гэтага. Акцёр добра зразумеў прыроду вобраза галоўнага героя — Труфальдзіна, здолеў зрабіць камічны персанаж і эфектным, і жыццёвым. У ім адчувалася кемнасць і дасціпны розум "чалавека з вуліцы". А крыху пазней — новая ўдача. І таксама ў сусветнай камедыйнай класіцы — у п'есе драматурга Б.Нушыча "Доктар філасофіі". Герой Кокштыса — прайдзісвет Благае, які трапляе ў пастку, што рыхтаваў іншым. Крытыка справядліва зазначала, што яго персанаж "жыве ў свеце падману, нават і не падазраючы, што гэта ненармальна і амаральна".

Ішоў час. На змену С.Казіміроўскаму прыйшоў у тэатр малады, энергічны сакрушальнік В.Мазынскі — рэжысёр, вельмі блізкі Т.Кокштысу па творчым духу, унутраным запале, светаўспрыманні, метадалогіі. Па выказванні акцёра — "інтуіт", "самародак".



Першая фраза, сказаная Мазынскім акцёрам-коласаўцам, была такая: "Хопіць іграць!". Натуральна жыць, існаваць, дакладна выконваць акцёрскую звышзадачу, адмовіцца ад штучнага малюнка ролі, ад знешняга падабенства — гэтага патрабавала тэатральная эстэтыка тых часоў. На новым этапе коласаўскага тэатра кола амплуа артыста Тадэвуша Кокштыса прыкметна пашыраецца. Знешнія прыёмы, штампы, работа "на публіку" ў рэпертуары В.Мазынскага адступілі, ды і ўрэшце зніклі зусім.

Прыгадаем Жабрака з "Сымона-музыкі", спектакля, напоўненага нязвыклым для беларускай сцэны рамантычна-тэатральным водарам. Але гэтая ўзвышанасць, паэтычная ўзнёсласць ішлі з нетраў самога жыцця, зрэшты, як і натхнёныя коласаўскія радкі. Беларуская зямля, яе мінуўшчына, песні, паданні, побыт нараджалі сімвалы, што не пакідалі абыякавымі, а прымушалі хвалявацца, скаланалі душы. Гэткімі ж здаваліся і вобразы спектакляў: спалучэнні жыццёва-побытавай рэальнасці, датыкальнай адчувальнасці і сімвалічнага абагульнення. Такім захавала мая памяць і Жабрака. Жвавы, рухавы, у зрэбнай вопратцы, з традыцый-



най торбай за плячыма, хуткі на гаворку; па-зямному трывалы і немудрагелісты. І разам з тым — лёгкі, як вецер, настырны, учэпісты, хітры спакушальнік. Такія супрацьлеглыя рысы спалучаў у сабе вобраз, створаны Тадэвушам Кокштысам.

Асаблівага ж поспеху дасягнуў акцёр у драмах Аляксея Дударава. Драматург, рэжысёр В.Мазынскі і акцёр Т.Кокштыс былі аднадумцамі. Вобразы Шаргаёва ў "Парозе", Гастрыта ў "Вечары", Юткі ў "Вежы" канчаткова замацавалі за ім рэпутацыю "сур'ёзнага" артыста.

У драме "Парог" вострым трагізмам, нягледзячы на ледзь не фарсавую сітуацыю, вылучаецца вобраз Шаргаёва — чалавека па-за "мяжой жыцця". Акцёр знайшоў трапныя "характарныя" рысы, літаральна ўразіў гледача непасрэднасцю, пераканальнасцю знешняга вобліку, манерамі паводзінаў, гаворкай, жэстыкуляцыяй персанажа. Ён быў адначасова смешны, недарэчны ў сваёй амаль дзіцячай наіўнасці і страшны інертнасцю жывёльнага існавання, вычварнасцю.

П'еса А.Дударава "Вечар" набыла ў коласаўцаў адметнае жанравае вырашэнне як драма-прыпавесце. Таму вобразы пазбаўляліся "тыпажнага" праўдападабенства і набывалі сімвалічную абагульненасць. Складанасць вобраза Цімоха (Гастрыта) у тым, што трэба было ў сённяшняй чалавечай дробнасці, нягегласці, раздражнёнасці, адзіноце паказаць жахлівае мінулае, вытокі чорных плямаў хворага сумлення. Герой нібы нясе запозненае пакаранне за грахі сваёй маладосці. Артыст выдатна здолеў



паказаць "шлях на Галгофу" свайго нікчэмнага героя, які напрыканцы жыцця ўсвядоміў, "для чаго мы прыходзім у гэты свет, для чаго пакутуем". Дарэчы, за стварэнне вобраза Цімоха-Гастрыта акцёр быў адзначаны прэміяй за лепшае выкананне мужчынскай ролі на прэстыжным фестывалі "Балтыйская тэатральная вясна". За гэтую ролю яму была нададзена і Дзяржаўная прэмія Беларусі.

У спектаклях рэжысёра Б.Эрына Т.Кокштыс быў зусім іншым. Туть ён сцвярджаў сваё права карыстацца гратэскам, буфанадай і нават бурлескам (прыгадаем Земляніку ў спектаклі "Рэвізор"). Расплюеў у "Вяселлі Крачынскага" — варты жалю і адначасова вельмі небяспечны чалавек (такім толькі дай у рукі грошы і ўладу — бацьку роднага не пашкадуюць).

Сёння Тадэвуш Антонавіч Кокштыс — адзін з вядучых артыстаў коласаўскага тэатра, ён актыўна заняты ў рэпертуары. Сярод апошніх работ — Жалтухін з камедыі А.Талстога "Касатка". Акцёр выдатна адчуў камедыйна-ёрністы стыль п'есы (на жаль, у меншай ступені ўласцівы спектаклю). Дуэт Далговай (Л.Пісарава) і Жалтухіна (Т.Кокштыс) выклікае ў гледача сімпатыю і сапраўдную замілаванасць. Сустрэліся, здавалася б, абсалютна супрацьлеглыя натуры: прыстойная памешчыца і "бывалы" гарэза, ігрок, амаль авантурыст. Адзінае, што іх аб'ядноўвае, — пачуццё адзіноты. Акцёр выдатна раскрыў не толькі характар персанажа, але і дадаў адметныя рысачкі, а перадусім яго жыццялюбства, малады запал, далікатнасць і тактоўнасць.

Даволі нечаканым (а, магчыма, і спрэчным) падаецца Блазен у спектаклі "Кароль Лір". Акцёр цураецца эксцэнтрыкі, буфанады, знешне выйгрышных момантаў, уласцівых традыцыйнай трактоўцы вобраза. Блазен Т.Кокштыса і рэжысёра В.Маслюка адмаўляецца быць паслугачом караля-тырана, караля-дэспата. Але яго трапныя філіпікі, жахлівыя прароцтвы не дасягаюць мэты. І тады ён сыходзіць. У небыццё. Каб потым, у фінале спектакля з'явіцца ў белым адзенні, стаўшы ці то анёлам, ці то святым.

Тадэвуш Антонавіч Кокштыс — акцёр універсальны ў тым сэнсе, што яшчэ ў гады сваёй маладосці ён чула ўспрыняў рэалістычныя традыцыі пачынальнікаў коласаўскага тэатра, яго карыфеяў. А яшчэ ў тым, што ён заўсёды неабыякавы да сапраўдных навацый, да сучаснай тэатральнай эстэтыкі. Ён — за сапраўды элітарнае мастацтва, якое не забаўляе, не пацяшае, а дае добрую глебу для розуму і душы.

**Юрась ІВАНОЎСКІ**

*На здымках:* Труфальдзіна ("Слуга двух гаспадароў" К.Гальдоні); Благае ("Доктар філасофіі" Б.Нушыча); Гастрыт ("Вечар" А.Дударава); Жабрак ("Сымон-музыка" Я.Коласа).

**Фота С.КОХАНА**

# ПАТРЭБНЫ ЕЎРОПЕ

ленняў змяніла традыцыйнае вясковае супольніцтва на вялікі горад, двойчы на працягу гэтага часу зведала змену пануючай ідэалогіі, якая кожны раз аднолькава жорстка ламала звыклы лад жыцця. Такое насельніцтва не можа быць носьбітам жорсткай ідэалагічнай схемы этна-карпаратыўнага характару; такім насельніцтвам можна кіраваць, толькі абапіраючыся на рацыянальна-прагматычныя пастулаты кшталту сям'і, працы, выгоды, рэлігіі ў вольным ад палітыкі варыянце, што з'яўляецца досыць рэдкай з'явай у сённяшняй Усходняй Еўропе і робіць грамадства Беларусі на пэўны час падобным да эміграцкага грамадства ЗША.

Дадае тут падобнасці таксама чарнобыльскі фактар, які настолькі моцна ўплывае на культуру Беларусі, што можна гаварыць пра яго этнавытворчае значэнне.

Урэшце, яшчэ адной яскравай рысай сучаснай беларускай культуры можна [illegible] скрайні культурна-ідэалагічны дынамізм яе нацыянал-фундаменталізму. Дастаткова згадаць уздым ім чарнобыльскай тэмы, выйсце з ягоных нетраў уніяцкай царквы і неапаганскай плыні, "ліцвінскую" трактоўку характару беларускай нацыі, ідэю БЧС, частыя неразбуральныя для яго, але вельмі рэзкія змены ідэалагічных акцэнтаў. Беларускі нацыянал-фундаменталізм з'яўляецца рухам ірацыянальным, харызматычным, які аперуе дасюль не катэгорыямі ўлады, а духу і пачуцця. Можна чакаць, што ён будзе ў стане ідэалагічна асэнсаваць і вельмі своеасаблівую беларускую культурную сітуацыю і зліцца з пануючай элітай. І такога мы таксама не бачым ва Усходняй Еўропе больш нідзе.

Спецыфіка структуры культуры Беларусі прымушае дадзенае супольніцтва вельмі своеасабліва адказваць на агульныя для ўсёй Усходняй Еўропы культурныя імпульсы. Акрамя таго, дзеля свайго самазахавання дадзеная культура павінна, як і ўсялякая іншая, ствараць вакол сябе камфортную культурную прастору, уплываючы на суседнія культуры або падстройваючыся пад іх.

Адпаведная характарыстыка сыходзячага з Беларусі навокал культурна-ідэалагічнага "імпульсу" ўключае ў сябе найперш ідэалогію прагматызму як форму даўно ў свеце вядомага рацыяналізму, секулярызацыю грамадскага жыцця, ачышчэнне яго ад уплыву ірацыянальных імпульсаў, касмапалітычную трактоўку ідэалагічна спрэчных пытанняў у святле чарнобыльскага снідрому. Варта звярнуць увагу на знешнюю палітыку Беларусі, скажам, адносна Літвы, дзе безумоўна больш моцная геапалітычная пазіцыя Беларусі не вядзе да рэалізацыі ідэалагізаванага курсу на абвастрэнне Віленскага пытання. Нават апошнія вядомыя нам пагадненні з Расіяй ідэалагічна трактуюцца зыходзячы не з ідэалагічных пасылак, а выключна з рацыянальных. Мала ва Усходняй Еўропе краінаў, якія б праводзілі настолькі дэідэалагізаваную знешнюю палітыку. Часта нават узнікае ўражанне, што беларуская знешняя палітыка дэідэалагізаваная для нашага часу, для нашага рэгіёна.

Беларускі нацыянал-фундаменталізм спецыфічны. Па сутнасці, яго галоўнай рысай сёння з'яўляецца апалагетыка стабільнасці дзяржавы, а не этнасу самога па сабе. Такую ж ідэалогію спавядае і пануючая палітычная эліта. Рознымі ў іх з'яўляюцца толькі тактыка і ідэалагічныя акцэнты. Падобнага тыпу нацыянал-фундаменталізму няма анідзе навокал ва Усходняй Еўропе, прынамсі сярод еўрапейскіх рэспублік былога СССР. Такі нацыянал-фундаменталізм разбуральны для нацыянальнай ідэалогіі эстонцаў ці латышоў, цяжкі для ўспрымання украінцам, малдаванам, літоўцам. Па-за межамі Беларусі дзяржаўніцтва — не больш як тактычны прыём тамтэйшых правых. У Беларусі ж гэта — сутнасць тутэйшага нацыяналізму. Адсюль — адзін крок да сапраўднага сінтэзу ідэалогіі дэмакратыі і нацыі па заходнееўрапейскім прыкладзе.

Яшчэ адным такім імпульсам з'яўляецца павышаная ўвага да пытанняў рэлігійнай дагматыкі, да філасофскай экалогіі. Наяўнасць трох прыкладна розных па рэлігійным уплыве канфесіяў аўтаматычна прымушае Беларусь шукаць вырашэння сваіх канфесійных праблемаў на шляху распаўсюджвання прынцыпу секулярызацыі, што таксама цяпер рэдкасць у нашым рэгіёне. Увогуле трэба адзначыць, што спецыфіка культуры Беларусі, спецыфіка зыходзячага ад яе культурнага імпульсу стварае ёй неблагія пазіцыі ў Еўропе на будучыню.

**Юры ШАЎЦОЎ,**
**сябра Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў**
Вільня

ПРАЗ ГАДЫ

## Аляксандр ЛУКАШУК

# ВЯРТАНЬНЕ НАЦЫЯНАЛІСТА, або ГІСТОРЫЯ ЯНКІ ФІЛІСТОВІЧА

### Дакументальная радыёп'еса

*(Працяг. Пачатак у №№ 41 — 44)*

**Суд:** Да сьледчай справы падшыты дакумент аб пераводзе арыштаванай Соф'і Самаль з ізалятара КДБ у шпіталь гарадской турмы ў сувязі з цяжарнасьцю і маючымі адбыцца родамі. Вы нешта хацелі сказаць, падсудны?

**Янка:** Я... Не. Зазначу яшчэ раз, што Соф'я пярэчыла, каб я жыў у іх, але не магла пайсьці супраць бацькі.

**Суд:** Як, калі і дзе Вы праводзілі канспіратыўную работу сярод насельніцтва і шпіёнскія акцыі?

**Янка:** Я сустракаўся і гаварыў з людзьмі і заўсёды расказваў, хто я, адкуль, з якімі паўнамоцтвамі. Многім паказваў пасьведчаньне сябра Рады БНР. Двойчы ездзіў у Вільню, Гародню. Усе, з кім я гаварыў, пасьля таго як даведваліся пра мэты майго прыезду, ахвотна дапамагалі, давалі прытулак, здабывалі неабходную інфармацыю.

**Суд:** У выніку гэтых паездак Вы пасылалі за мяжу справаздачы аб наяўнасьці там савецкіх войскаў, аб ваенным аэрадроме. Як Вы пісалі свае шпіёнскія данясеньні?

**Янка:** Кроўю. Пракалваў палец, у некалькі кропель крыві дадаваў вады, затым завостранай палачкай пісаў тэкст. Потым сушыў на сонцы ці на кастры. Тэкст упісваў паміж радкоў звычайнага пісьма і пасылаў на вядомы мне адрас.

**Суд:** Падсудны Філістовіч, раскажыце, як і з якой мэтай Вы ўступілі ў сувязь з бандай былых паліцаяў, якія хаваліся ў лесе?

**Янка:** Мне расказваў пра людзей, якія хаваліся ў лесе, мой дзядзька адразу пасьля майго зьяўленьня ў Паняцічах. Але першая сустрэча адбылася толькі ў травені 1952 году. Спачатку ў групе, якая месьцілася ў двух кіламетрах ад вёскі Самалі, было чатыры чалавекі: Сяргей Мікуліч, Міхась Петрусевіч, Антон Петрусевіч, Андрэй Бялькевіч. У ліпені да нас далучыліся Іван Будкевіч і Уладзімер Шыцік. Я меркаваў выкарыстаць гэтых людзей дзеля вядзеньня нацыянальнай агітацыі, падрыхтоўкі сялян да паўстаньня. Але перш трэба было адукаваць саміх удзельнікаў групы. Барыс Рагуля гаварыў мне перад ад'ездам, што ідэальна будзе, калі да яго прыезду на Беларусь я не зраблю ніводнага выстралу. Ніводнага тэракту я ня зьдзейсьніў, не дазваляў гэта рабіць і ўдзельнікам ляснога падполья, якія да майго прыходу ў лес зьдзейсьнілі не адзін такі акт.

Суд: Раскажыце пра Вашу спробу стварыць так званыя нацыянальна-вызваленчыя ўзброеныя сілы.

**Янка:** Каб упарадкаваць нашы дзеяньні, я вырашыў прывесьці ўдзельнікаў групы да прысягі. Сам склаў яе тэкст: "Я, грамадзянін Беларускай Народнай Рэспублікі, уступаючы ў шэрагі беларускіх нацыянальна-вызвольных сілаў, перад Богам, Бацькаўшчынай і беларускім народам урачыста прысягаю быць верным сьветлай ідэі пастановы 25 сакавіка 1918 году і БНР і аддаць усе свае сілы для іх ажыцьцяўленьня. Прысягаю безагаворачна выконваць усе загады Прэзідэнта Рады і ўраду БНР і сваіх камандзіраў, скіраваныя на карысьць нацыянальна-вызвольнай справы. Абяцаю сьвята берагчы дзяржаўную, ваенную тайну, захоўваць непатаптаную чысьціню бел-чырвона-белага сьцягу БНР. За парушэньне маёй урачыстай прысягі абавязуюся прыняць самую суровую кару".

**Суд:** Раскажыце пра налёт Вашага войску на друкарню МТС у мястэчку Вязынь.

**Янка:** Нам патрабаваліся друкарскія прылады і шрыфты, каб выпускаць сваю газету, друкаваць адозвы. Маючы ўласны выдавецкі вопыт, я ўзяў толькі самае неабходнае: касы з шрыфтамі, наборныя планкі, друкарскую фарбу і некалькі рулонаў газетнай паперы. Абсталяваньне разьмясьцілі ў нашым другім лагеры, ва ўрочышчы Руда, у двух кіламетрах ад вёскі Кутляны. Пасьпелі набраць і аддрукаваць газеты "Жыве Беларусь", а таксама ўлёткі. Частку друкаванай прадукцыі пасьпелі распаўсюдзіць.

**Суд:** Падсудны Філістовіч, Вы нічога не сказалі пра бандыцкі напад і абрабаваньне двух савецкіх служачых — фінагентаў, у якіх Вы забралі 6000 рублёў.

**Янка:** У канцы чэрвеня ў мяне скончыліся грошы, якія мне далі амерыканцы. З самага пачатку я пастанавіў нічога не браць у людзей задарма і плаціў за ўсе прадукты, якія атрымлівалі ад насельніцтва. Калі грошы скончыліся, было вырашана ўзяць іх у савецкай улады. У фінагентаў мы забралі толькі казённыя грошы.

**Суд:** Ці ведалі Вы, што замах на дзяржаўную сацыялістычную маёмасьць зьўляецца асабліва цынічным відам пасягацельства і караецца аж да расстрэлу? Зрэшты, гэта ўжо не мае значэньня. Колькі вяровачка не ўецца, канец адзін. Зачытаем вытрымкі з акту МДБ, складзенага 5 верасьня 1952 году ў вёсцы Самалі Ільянскага раёну Маладэчанскай вобласьці. "... У ноч з 4 на 5 верасьня была праведзена аперацыя ў ліквідацыі ўзброенай бандыцкай групы пад кіраўніцтвам амерыканскага шпіёна Філістовіча Івана Андрэевіча. Напачатку аперацыі ў 23 гадзіны 4 верасьня ў лесе на захад ад вёскі Седзіца быў захоплены бандыт Бялькевіч Андрэй Іронавіч, 1920 году нараджэньня, які спрабаваў аказаць узброенае супраціўленьне. Канфіскаваны бельгійскі карабін, 15 баявых патронаў. Пры падыходзе да бандыцкага лагеру ў лясным масіве на паўночны захад ад вёскі Самалі быў заўважаны бандыт Петрусевіч Міхаіл Кірылавіч, якога пры аказаньні супраціўленьня аператыўна-ваенізаваная група зьнішчыла, пасьля чаго разьмесьцілася ў засадзе".

**Янка:** Я ў гэту ноч разам з Антонам Петрусевічам і Іванам Будкевічам быў у вёсцы Пузава, у свайго дзядзькі Пятра Самаля, у якога жыў першыя паўгода пасьля вяртаньня на Беларусь. Яго дачка, Соф'я, дала нам з сабой хлеб, масла, сыр, яечкі, насыпала сліў. Тады апошні раз я бачыў Соф'ю... Мы выйшлі з хаты на досьвітку і, калі падыходзілі да лагеру, сонца яшчэ не ўстала. Было ціха-ціха...

**Суд:** Суду вядома, што гэтую акалічнасьць, падсудны Філістовіч, Вы выкарысталі ў спробе пазьбегнуць адказнасьці перад савецкім законам. Працягваем



азнаямленьне з актам МДБ: "У 6 гадзін 5 хвілін 5 верасьня 1952 году засада прыняла меры да захопу вяртаўшыхся бандытаў. Апошнія, аказаўшы ўзброенае супраціўленьне, спрабавалі ўцячы. Былі забітыя: Пятрусевіч Антон Захаравіч, 1908 году нараджэньня; Будкевіч Іван Данілавіч, 1916 году нараджэньня. Кіраўніку бандыцкай групы шпіёну Філістовічу Івану Андрэевічу ўдалося ўцячы".

**Янка:** Амаль пяць дзён, ці дакладней, начэй, ішоў на Захад, думаў перайсьці мяжу з Польшчай недалёка ад Гародні. Усюды былі вайсковыя часткі, міліцыя, мясцовыя жыхары не маглі выбрацца ў суседнюю вёску. Салдаты пад камандай афіцэраў прачосвалі лес, пускалі сабак. Начамі былі раньнія замаразкі. Есьці не было чаго. У верасьні адна ягада, ды і тая горкая рабіна. Як некалі ў дзяцінстве, глядзеў, як адляталі ў вырай птушкі: быццам цёмныя хмары, чародкамі праляталі берасьцянкі, цягнуліся касяком гусі ды качкі, касым шнурам рэзалі паветра лебедзі... Мой вырай быў тут.

Дзень перад апошнім пераходам папрасіўся адпачыць у вяскоўца-гаспадара. Начаваў у хлеўчыку, перагледзеў свае дакументы. Амаль усе парваў. Аддаў гаспадару аўтамат у прамасленай паперы, каб той захаваў. Адарваў і выкінуў ампулу з цыяністым каліем, якую далі ў Мюнхене на крайні выпадак. На пяты дзень, калі сьцямнела, мусіў хоць крыху адпачыць і паесьці. На беразе невялікай рэчкі стаяла вёска Ярмолічы. Пастукаў у крайнюю хату. Раней людзі не раз дапамагалі і давалі прытулак, ніхто не выдаў на працягу году... Гаспадар пусціў у хату. Паставілі на стол вячэру, налілі гарбаты. Глынуў і раптам усё паплыло перад вачыма і праваліўся ў цемру...

**Суд:** Савецкі патрыёт, жыхар вёскі Ярмолічы, які даўно супрацоўнічаў з органамі бясьпекі і дапамагаў абясшкоджваць ворагаў, змог паведаміць органам аб амерыканскім шпіёне. Яму была перададзена моцнадзеючае снатворнае, якім і была ўсыплена пільнасьць класавага ворагу. Зачытаем вытрымку з акту затрыманьня: "9 верасьня 1952 году ў 23 гадзіны 30 мінут групай упраўленьня МДБ Маладэчанскай вобласьці ў колькасьці 13 чалавек быў захоплены агент замежнай разьведкі Філістовіч Іван Андрэевіч. Пры вобыску канфіскавана: пісталет замежнай маркі калібру 6,55 мм з абоймай і 9 патронамі; Пасьведчаньне нумар 147/51 ад 11 сакавіка 1951 году на імя Філістовіча Янкі, выдадзенае Радай БНР і падпісанае прэзідэнтам Рады Міколам Абрамчыкам; фотакартка з надпісам "Дарагому Януку на памяць. М.Абрамчык. 11.03.1951 г.Парыж"; фотакартка з надпісам на адвароце "На памяць Філістовічу ад Кушаля. 20.01.1949 г. Віндышбергердорф"; фотапартрэт з надпісам "Папа Пій XII" і малітвай на абароце; два каляровыя здымкі рэлігійнага характару".

**Янка:** У схованцы ў лагеры застаўся малітоўнік, выдадзены ў Рыме ў 1946 годзе, паштоўкі са сьцягам і гербам БНР, нумары газеты "Беларускія навіны" за сакавік-красавік 1946 году, тры выпускі газеты "Бацькаўшчына", кнігі Тараса Шаўчэнкі: "Каўказ", "Сон", "Кацярына", "Наймічка". "Як умру, то поховайтэ мэнэ .на могилі сэрэд стэпу шырокого..."

**Суд:** Суд тлумачыць, грамадзянін Філістовіч, што ў савецкім судаадпраўленьні так званае апошняе жаданьне адсутнічае як перажытак буржуазнага гуманізму. Вернемся да Вашага арышту. Вы не назвалі іншыя рэчавыя доказы, схаваныя ў лесе.

**Янка:** У лагеры заставаліся дэтэктарны прыёмнік "Камсамолец", навушнікі і грозапераключальнік, бінокль з васьміразовым павелічэньнем, сапёрная рыдлёўка, розная вопратка, коўдра, рэчавы мех, чаравікі з гетрамі, сетка ад камароў, парашутны шоўк...

**Суд:** Пералічыце іншыя рэчы з арсеналу для вядзеньня варожай нацыяналістычнай і дыверсійнай дзейнасьці, якія Вы захоўвалі ў лагеры.

**Янка:** Друкарскі набор адозвы "Жыве Беларусь" і частку накладу, які не пасьпелі раздаць, друкарскія прылады, папера, фарба. Тапаграфічная і этнаграфічная карта Беларусі, нажніцы для рэзкі дроту, пару соцень пісталетных патронаў, медыкаменты: шпрыц Люіра, голкі, пінцэт, ёд, 9 цюбікаў морфію, пластыр, вата, жгут, бінт.

**Суд:** Бандытам яны ўжо не спатрэбяцца: чэкісты па ворагах б'юць без промаху. Зачытаем акт апазнаньня, складзены 6 верасьня 1952 году ў Маладэчна. "Арыштаваны Бялькевіч, уважліва аглядзеўшы трупы, якія былі занумараваныя пад нумарамі два і тры, заявіў, што ў абодвух трупах ён пазнаў удзельнікаў бандыцкай групы: у трупе нумар два, які ляжыць на сьпіне зьлева, ён пазнаў бандыта Будкевіча Івана Данілавіча, народжанага ў вёсцы Петрашова, які служыў у перыяд нямецка-фашысцкай акупацыі старастам Пятрашоўскай грамады і хаваўся ад органаў Савецкай улады з 1944 году, і ў трупе нумар тры, які ляжыць таксама на сьпіне справа — Пятрусевіча Антона Захаравіча, народжанага ў вёсцы Буйслі, які служыў у карных органах і хаваўся ад органаў Савецкай улады з мая 1949 году. Апазнаньне праводзілася ад 14 да 14.30".

**Янка:** У ноч, калі мяне праз здраду арыштавалі соннага, споўніўся роўна год, як я апусьціўся на родную зямлю. Пад узмоцненым канвоем адвезлі ў Менск, у турму КДБ, так званую амерыканку, дзе памясьцілі ў адзіночную камеру. І адразу пачаліся допыты: у першую ж ноч допыт цягнуўся з дзевяці вечара да дзесяці раніцы. Вярнуўся ў камеру — спаць днём забаронена. У чатыры гадзіны папалудні зноў на допыт да паловы восьмай. Толькі заснуў — апоўначы зноў да сьледчага, дзе прабыў да паловы шостай раніцы. Наступную ноч таксама ўсю, з дзевяці вечара да дзевяці раніцы, правёў на допыце. Потым допыт днём і зноў уся наступная ноч у кабінеце сьледчага, і так кожны дзень і кожную ноч. Толькі за першы месяц я правёў на допытах больш двухсот гадзінаў.

**Суд:** Падсудны Філістовіч, з 26 студзеня па 6 лютага 1953 году Вам была дадзена магчымасьць азнаёміцца з матэрыяламі сьледчай справы ў 24 тамах. Ці маеце дапаўненьні і хадайніцтвы?

**Янка:** Дадаць нічога не магу. Хадайніцтваў у справе — не маю.

*(Далей будзе)*

# ДА БАЦЬКАЎШЧЫНЫ — З ЛЮБОЎЮ

**Федэральная рада беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі зьвяртаецца да суайчыньнікаў на Беларусі.**

***Дарагія Суродзічы!!***

З нагоды Сьвята 74-х Угодкаў Слуцкага Паўстаньня перасылаем Вам нашыя ўрачыстыя віншаваньні з пажаданьнямі.

Дзень 27-га лістапада 1920 году сьвяткуецца беларусамі па ўсім вольным сьвеце, дзе іх закінула нядоля за межы роднай Бацькаўшчыны. Чытаюцца Урачыстыя Акадэміі — адпраўляюцца Божыя службы, пяюцца патрыятычныя песьні.

З таго дня, як Случчакі аддалі сваё жыцьцё на алтар роднай Бацькаўшчыны, мінула ўжо 74-ы гады, але памяць сярод беларусаў жыве.

Слуцкія Паўстанцы не дачакаліся таго, аб чым марылі. Савецкая Расія і Польшча супольнымі сіламі зруйнавалі адбудаваную Беларускую Народную Рэспубліку, акупавалі яе ды падзялілі паміж сабою ганебным, гэтак званым, Рыскім Трактатам у 1921 годзе. З таго часу прайшлі гады, і акупанты Бацькаўшчыны не змаглі зьнішчыць волю і сілу беларуса, і ў наш час быў праяўлены народны ўздым падчас Другое Сусьветнае вайны.

Гэты аграмадны нацыянальны ўздым быў увенчаны арганізаваньнем Ураду Беларускай Цэнтральнай Рады на чале з прэзідэнтам Р.Астроўскім і гістарычны 2-гі Усебеларускі Кангрэс, які падмацаваў і дапоўніў запаветы 1-га Усебеларускага Кангрэсу. Угодкі Слуцкага Паўстаньня — гэта сумная дата ў нашым календары нацыянальных сьвятаў, бо гэта плач на рэках Бабілонскіх. І гэты плач, сум і гора будзе працягвацца так доўга, пакуль Беларусь і ейны народ ня будуць вольнымі. А зерне, кінутае ў глебу беларускімі патрыётамі, якія паміралі, каб жыла Бацькаўшчына, не згінула марна і дало добры ўсход.

Гэрб Пагоня і Бел-чырвона-белы Сьцяг лунае над Будынкам Беларускага Ураду ў сталіцы Менску, і маладая Беларусь крочыць у сьветлую будучыню.

Мы беларусы Аўстраліі, жадаем Беларускаму Народу на Бацькаўшчыне вытрываласьці ў ягоным змаганьні за свае нацыянальныя правы. Мы верым у перамогу праўды. Мы верым, што Беларусь займе сваё ганаровае месца сярод свабодалюбных народаў сьвету.

***Няхай жыве Вольная і Незалежная Беларусь і яе змагарны Народ.***

***Жыве Беларусь!***

Лістапад 1994 год.

**За ВК-Т Ф.Р.Б. у Аўстраліі**
**Сакратар Паўла ГУЗ**

НА КУБАЧАК ГАРБАТЫ

# МАСТАЦТВА СТАРЭННЯ, АЛЬБО ПРАБЛЕМЫ "ТРЭЦЯГА ЎЗРОСТУ"

Сучасная геранталогія дзеліць жыццё чалавека на тры ўзросты: на першы ўзрост прыпадае трыццаць гадоў, на працягу якіх чалавек вучыцца, пазнае свет, набывае тую ці іншую прафесію; наступныя трыццаць гадоў (другі ўзрост) — гэта час актыўнай дзейнасці, калі чалавек рэалізуе сябе і ў сваёй прафесіі, і як асоба, час усталявання сям'і і выхавання дзяцей. І, нарэшце, наступае так званы "трэці ўзрост", уступаючы ў які чалавек часта не ведае, што яму рабіць з гэтым "падарункам" жыцця. Добра, калі гэта сапраўды ўзнагарода, "заслужаны адпачынак", калі можна пажыць "для сябе". А калі разам з "трэцім узростам" прыходзяць хваробы, нямогласць, самотнасць нават сярод блізкіх — ці падарунак гэта?

Адным словам, што рабіць і як быць, калі наступае старасць?

Людзі заўсёды ставіліся да яе дваяка. Адны, як Марцін Лютэр, лічылі, што "старасць — гэта жывая магіла", другія, як Андрэ Маруа, сцвярджалі, што старасць — "дурная звычка, на якую ў людзей актыўных проста няма часу..."

Ды і што такое старасць, што такое гэты "трэці ўзрост"? А галоўнае — калі ён пачынаецца? Адназначна тут не адкажаш, бо ў кожнай эпохі ёсць свой адказ. Напрыклад, старажытныя грэкі лічылі, што мяжа жыцця — 60 год, — чалавек, які дажываў да шасцідзесяці, лічыўся глыбокім старцам. Тое ж самае было і ў эпоху сярэднявечча. Лічылася, што старасць у жанчыны наступае ў 30 гадоў, у мужчыны — у 50, аднак і да пяцідзесяці мала хто дажываў, большасць людзей не дацягвала і да сарака...

Для нас гэта дзіўна, бо хто сёння лічыць сябе старым у сорак год? І нават у пяцьдзесят і шэсцьдзесят! Мала таго, сучасная навука сцвярджае, што і сто гадоў, і сто дваццаць — не мяжа для чалавека. Пры адпаведных сацыяльна-эканамічных умовах, пры дапамозе высокаразвітай медыцыны чалавек можа і павінен жыць доўга. Аднак ён ніколі не будзе жыць вечна. Ніякая навука не можа і не зможа ніколі перамагчы смерць, бо смерць — закон прыроды. І закон мудры! Так, мудры, хоць, вядома, чалавек заўсёды марыў і марыць аб неўміручасці, аб тым, каб неяк абмінуць, абхітрыць смерць. Аднак у чалавека, у чалавецтва здавён выпрацавалася і цвярозае стаўленне да смерці, філасофскі падыход да яе.

У старажытным Рыме адным з мудрэйшых запаветаў, так бы мовіць, крэдам жыцця было класічнае "Мемента моры" — "Помні аб смерці". Не для таго, каб напалохаць — наадварот! Рымляне разумелі, што думка аб смерці напаўняе жыццё чалавека вялікім сэнсам, дапамагае зразумець, адчуць каштоўнасць жыцця, яго непаўторнасць, успрымаць яго як шчаслівы дар, нягледзячы на ўсе цяжкасці, турботы, журботы і нават пакуты. Менавіта таму думка аб смерці, усведамленне сваёй смяротнасці, часовасці не перашкаджае людзям жыць. І менавіта таму найбольш мудрыя спрачаюцца з такой, здавалася б, прывабнай ідэяй неўміручасці. Напрыклад, выдатны рускі пісьменнік К.Паўстоўскі пісаў, што неўміручасць, бяссмертнасць была б праклёнам для чалавецтва. Успомнім і Джанатана Свіфта, які ў сваім "Падарожжы Гулівера" расказвае пра востраў, дзе жывуць ліліпуты, якія асуджаны на бессмяротнасць і... зайздросцяць смяротным.

І ўсё ж, безумоўна, ніхто паміраць не хоча. Як заўважыў царкоўны стараста: "Я веру ў вечнае блажэнства на небе, але давайце пагаворым пра што-небудзь менш журботнае..." Для чалавека натуральна, як пісаў вялікі філосаф Спіноза, не аб смерці думаць, а разважаць аб жыцці. У гэтым мудрасць.

Жыццё павінна быць доўгім. Доўгім і паўнацэнным. Але чамусьці лічыцца, што паўнацэнным жыццё можа быць толькі ў маладосці. Нездарма алхімікі сярэднявечча імкнуліся вынайсці эліксір маладосці, ужываючы для гэтага самыя дзіўныя сродкі. Напрыклад, растваралі ў моцных рэактывах "вечныя" металы, скажам, золата, і рабілі з іх пітво, якое, нібыта, магло захаваць навечна альбо вярнуць чалавеку



маладосць. Альбо высушвалі кажана, чый век па тагачасных уяўленнях складаў тысячу гадоў, ці жабу, якая, лічылася, таксама жыве тысячу гадоў, рабілі з гэтых высушаных стварэнняў парашок, які дабаўлялі ў тое ж пітво. Ды, вядома, усё гэта было дарэмна.

Дарэмнымі аказаліся і намаганні ўжо не алхіміі, а сапраўднай навукі з яе спробамі зрабіць старога чалавека маладым. Пачаліся гэтыя спробы яшчэ на пачатку нашага стагоддзя. Сутнасць іх палягала на тым, каб спыніць працэс старэння, перасаджваючы чалавеку эмбрыянальныя тканкі малпы. Так званыя эмбрыянальныя экстракты па сённяшні дзень лічацца дзенідзе панацэяй ад старасці, і за вялікія грошы імі лечаць ад гэтай "хваробы" багатых старых. Вынікаў, праўда, аніякіх. Бо для таго, каб "вылечыцца" ад старасці, трэба адказаць на адно простае пытанне: "Чаму мы старэем?" Адказ жа на гэтае пытанне зусім не просты. Мала таго, вычарпальнага, адназначнага адказу няма.

Прырода-маці абсалютна раўнадушная, абыякавая да асобнага чалавека, да яго жадання жыць доўга і заставацца пры гэтым маладым і здаровым. Прырода заклапочана выжываннем усяго роду людскога, захаваннем чалавека як віда, як папуляцыі. А для таго, каб від мог выжыць, для яго эвалюцыі неабходна змена пакаленняў, бо толькі змена пакаленняў дазваляе людзям прыстасавацца да ўмоў існавання, да асяроддзя, у якім яны існуюць. А што такое змена пакаленняў? Гэта — смерць адных людзей у выніку старасці і прыход новых. Так што старэнне — працэс запраграміраваны, закладзены ў генах і спыніць яго немагчыма. А вось запаволіць яго можна!

Сучасная геранталогія якраз і займаецца праблемай запавольвання старэння, шукаючы яго натуральныя прычыны. Адной з такіх прычын, на думку вялікага рускага вучонага Івана Мечнікава, з'яўляюцца гніласныя бактэрыі, якія пасяляюцца ў нашым арганізме, наогул гніласныя працэсы, звязаныя са спажываннем ежы. Таму ён рэкамендаваў ужываць як мага больш кісламалочных прадуктаў, якія падаўляюць і знішчаюць гэтыя гніласныя бактэрыі. Так бы мовіць, кефір і ёсць эліксір маладосці, які дарэмна шукалі алхімікі.

Гэта адзін з падыходаў.

Другі зыходзіць з таго, што, згодна з тэорыяй, прапанаванай у пачатку нашага стагоддзя Аўгустам Вейсманам, усе клеткі нашага арганізма падзелены на дзве катэгорыі: клеткі цела і палавыя клеткі. Прычым палавыя клеткі дамінуюць над клеткамі цела, падпарадкоўваюць іх сабе, прымушаюць абслугоўваць перадачу генетычнай інфармацыі, што з'яўляецца функцыяй палавых клетак. Забяспечыўшы палавым клеткам выкананне гэтай функцыі, аддаўшы ім усе свае рэсурсы, клеткі цела пачынаюць адміраць, старэць. І калі б удалося неяк вызваліць клеткі цела з-пад улады палавых ці хоць бы аслабіць дыктат апошніх, працэс старэння запаволіўся б. Але якім коштам? Ці не бясплоддзем?.. Пытанне, аднак, рытарычнае, бо бясплоднымі пакуль што аказваюцца ўсе спробы зрабіць гэта. Таямніца старэння застаецца таямніцай.

Ёсць яшчэ адзін падыход да гэтай таямніцы. Некаторыя вучоныя мяркуюць, што старэнне звязана з адміраннем клетак касцявога мозгу, якім запоўнены ствол пазваночніка. Менавіта ў касцявым мозгу нараджаюцца клеткі імуннай сістэмы, без якіх арганізм не мог бы супрацьстаяць аніводнай хваробе, аніводнай бактэрыі, наогул не мог бы існаваць. І калі б, напрыклад, узяць у маладога чалавека яго маладыя імунныя клеткі ды захоўваць іх у замарожаным стане да таго часу, пакуль не надыйдзе старасць, а тады зноў увесці тыя маладзенькія клеткі ў касцявы мозг, то адбудзецца цуд амаладжэння!

Але ён не адбываецца, што пацвярджаюць вопыты на жывёлах.

Старой мышы перасаджваюць клеткі касцявога мозгу маладой, і гэтыя клеткі пачынаюць функцыянаваць, прычым нармальна. Але працягваецца гэта нядоўга. У нейкі момант — нібы раптам — усе маладыя клеткі ператвараюцца ў старыя.

Больш таго, калі маладую мыш злучылі са старой, зрабілі ім агульны крывазварот, словам, ператварылі іх у "сіямскіх блізнят", то старая мыш не толькі не амаладзілася за кошт маладой, наадварот, маладая пачала нібы даганяць старую. А калі яе аддзялілі ад старой, то былая маладосць да яе не вярнулася — яна "заразілася" старасцю!

Усё гэта даказвае, што вярнуць маладосць, на жаль, немагчыма. Даказвае, што разгадаць таямніцу старэння — гэта тое самае, што разгадаць таямніцу жыцця, таямніцу ўзнікнення жывога на нашай планеце. Можа, калі-небудзь гэта і ўдасца. А пакуль што трэба думаць не пра тое, як прадоўжыць чалавечы век, а пра тое, як трэба жыць і што рабіць, каб ён не скарачаўся. Бо разлічаны чалавечы арганізм не на такі ўжо малы тэрмін — гадоў на сто — сто дваццаць.

Першая ўмова доўгажыхарства — актыўнае, рухавае жыццё, цікавасць да ўсяго, што дзеецца вакол нават і тады, калі сам ты ўжо афіцыйным статусам пенсіянера нібы выключаны з ліку актыўна дзеючых асоб. Нездарма сказана, што пад ляжачы камень і вада не цячэ, — гэта вельмі мудрая і ўсеабдымная формула! Хоць мы і кажам пра чалавека, які пайшоў на пенсію, што ён "пайшоў на заслужаны адпачынак", пра які адпачынак можа ісці размова? Пра адпачынак ад жыцця? Але ад яго мы адпачнем потым, недзе там, за рысай... А пакуль жывыя — трэба жыць, а не адпачываць, не ляжаць, як той камень!.. Дарэчы, пра бяздзейснае ляжанне, пра, так бы мовіць, "стопрацэнтны адпачынак": старога чалавека і маладога хлопца (фізічна здаровых) папрасілі ляжаць у ложку дзесяць дзён, паадпачываць на "поўную катушку". І што? Стары літаральна на вачах пачаў трупянець, а маладога ахапіла дэпрэсія, ён зрабіўся раздражнёным, капрызным, нервы сталі нікуды не вартыя.

Гэта клінічны дослед, але і без аніякіх доследаў жыццё само паказвае, што той, хто ад яго не адпачывае, жыве доўга і паўнацэнна. Добра вядома, што ўсе доўгажыхары — людзі працавітыя, што яны ніколі не сядзяць, склаўшы рукі. Дарэчы, тычыцца гэта не толькі фізічнай працы, але і разумовай, творчай. Заўважана, што актыўнае інтэлектуальнае жыццё — немалаважны фактар для доўгажыхарства. Тлумачыцца гэта проста: чалавеку, які многа чытаў і чытае, любіць тэатр, музыку, жывапіс, лягчэй захаваць цікавасць да жыцця, захапленне жыццём, чым чалавеку абмежаванаму, бездухоўнаму, які пустэчу вольнага часу залівае гарэлкай...

Безумоўна, драма старэння застаецца ў любым выпадку. Як заўважыў некалі Оскар Уайлд у сваёй аповесці "Партрэт Дарыяна Грэя", трагедыя не ў тым, што старэеш, а ў тым, што застаешся маладым. Гучыць парадаксальна, але гэта праўда, бо, старэючы, чалавек ніяк не можа расстацца з патрэбамі і матывамі маладосці. Таму той жа выхад на пенсію амаль для кожнага — гэта балючая, пакутлівая, цяжкая "перабудова". Што ні кажы, а чалавек у гэты перыяд застаецца сам-насам з сабою, асэнсоўвае і пераасэнсоўвае ўсё сваё жыццё, і бачыць сам сябе нібы збоку. Памятаеце, як пра гэта сказана ў Юрыя Алешы, у яго кнізе "Ні дня без радка"?

"Цяпер нас двое: я і той стары, што ў люстры. "Добры дзень, ты хто?" — "Я — гэта ты". — "Няпраўда!"

На жаль, праўда. І разам з тым — чаму "на жаль"? Ніякага жалю не будзе, калі зразумець, калі прыняць простую ісціну, што старасць — гэта абавязак, які трэба выканаць на карысць сабе і людзям. А як выканаць — гэта залежыць ад нас саміх. Не варта, відаць, старым людзям, "задраўшы порткі, бегчы за камсамолам", як пісаў Ясенін, але і заставацца далёка ў хвасце ад маладых не варта таксама. З годнасцю заставацца ў плыні жыцця, не абавязкова на самым стрыжні, але ў плыні. А хіба не старасць з яе вопытам надае гэтай плыні глыбіню?!

Спытаюць: дык у чым жа мастацтва старэння? Відаць, у тым, каб не мітусіцца, каб не баяцца смерці і помніць аб ёй. Бо, як гэта ні дзіўна, "мемента моры" — дэвіз жыцця, а не скону. Старажытныя рымляне гэта разумелі...

**Рэгіна БАКУНОВІЧ**
**Фота Аляксандра СТАДУБА**

КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік —
Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ІПАТАВА

Нам.галоўнага рэдактара —
Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдкалегія:
А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП, Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ, А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ, В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ, В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ

Адказны сакратар — Пётра ВАСІЛЕЎСКІ
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ
Набор і вёрстка кампутарнага цэнтра газеты "Культура"

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Фармат А3.

Індэкс 63875
Агульны наклад 6000
Замова 28
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.